

*Жыве Беларусь!*

# БЕЛАРУС

Address:
166-34 Gothic Drive
Jamaica, NY 11432

BIELARUS/Belarusan newspaper in Free World ISSN 1054-9455
Published by the Belarusan American Association, Inc.
bielarus@bazahq.org

№ 605 Студзень, 2014 г.
Год выданьня 65


## Шаноўныя чытачы!

Прапануем вам першы ў гэтым 2014 годзе нумар нашай газэты. У ім адлюстраваныя падзеі за студзень. Першы месяц новага году зьвязаны са сьвяткаваньнямі Нараджэньня Хрыстова, якое адзначаюць праваслаўныя беларусы. Традыцыйна ў беларускіх асяродках у студзені праводзяцца Калядныя Ялінкі, потым сьвяточныя падзеі працягваюцца на Вадохрышча. Гэты сьвяточны дух студзеня адлюстраваны і на старонках нашай газэты.

Як звычайна, больш спакойным пачатак году ёсьць ў палітычным жыцьці. На нашай Бацькаўшчыне сытуацыя застаецца без пераменаў. Але, бурлівыя падзеі ў суседняй Украіне так ці інакш уплываюць і на Беларусь. Рэжым стоена прыціх у трывозе, ці не перакінецца украінскі вольны дух і на Беларусь. А на выпадак чаго паціху нарошчвае расейскую вайсковую прысутнасьць у краіне, гэта выклікае трывогу на Захадзе, пра што сьведчаць нядаўнія заявы вядомых заходніх палітыкаў.

Тым часам беларуская дэмакратычная грамадзкасьць словамі і справамі падтрымлівае украінскі Майдан. Выразная ахвярная беларуская прысутнасьць на Майдане бачна ўсім, у інтэрнэце выстаўлена мноства фота, дзе побач з украінскімі на Майдане лунаюць нашы бел-чырвона-белыя сьцягі, а сваё маладое жыцьцё за свабодную Украіну аддаў беларускі хлопец Міхаіл Жызьнеўскі, застрэлены на барыкадах 22 студзеня. Беларусы на Майдане змагаюцца ня толькі за Украіну, але і за сваю Бацькаўшчыну. Перамога украінцаў дасьць надзею і нам вызваліцца назаўсёды ад расейскага дыктату і іхнага стаўленьніка. Мы шчыра жадаем братняму украінскаму народу здабыць жаданую свабоду. Гэтую падтрымку мы выказвалі амэрыканскім украінцам, якія запрасілі прадстаўнікоў Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня на паніхіду па загіблым на Майдане ў тым ліку і па беларускім хлопцы. Мы смуткавалі і ганарыліся нашым героем, а украінцы дзякавалі беларусам за дапамогу.

У гэтым выпуску вы знойдзеце яшчэ шмат цікавых і патрэбных інфармацый, жадаем вам прыемнага чытаньня і чакаем ад вас водгукаў на публікацыі і новых інфармацый для газэты.

Выказваем шчырую падзяку нашым ахвярадаўцам, сьпіс якіх падаем з надзеяй, што ён працягнецца ў наступным нумары.

*Рэдакцыя*

## Каляднае архіпастырскае пасланьне першагерарха Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай царквы архіяпіскапа Сьвятаслава Логіна

*«Нова радасьць стала, яка не бывала*
*Над Бэтлеемам зорка ясна на ўвесь белы сьвет зазьзяла»*
*(Беларуская калядка)*

Любыя браты й сёстры ў Хрысьце !

Надыходзіць вялікае сьвята Нараджэньня Хрыстовага — Каляды! Гэтую падзею сьвяткуем урачыста штогод, бо вынікам прыходу на зямлю Сына Божага Ісуса Хрыста ёсьць Хрысьціянства, да якога тысячу гадоў таму далучыліся й продкі беларусаў. Яно зьмяніла сьвет, прапаведуючы мір і любоў як паміж людзьмі, так і паміж цэлымі народамі. Сьведчаньне пра мір было першаю весткаю ад анёлаў у Калядную ноч: «Слава Богу ў вышынях, і на зямлі мір, і ў людзях добрая воля!» (Лк.2:14).

З айчыннае гісторыі вядома, што мір, шчасьце й духоўны ўздым былі, калі Беларускі народ жыў самастойна, меў сваю дзяржаву і нацыянальную Царкву, а заваёўнікі прыносілі толькі гора, матэрыяльны й духоўны заняпады. Сёньня таксама маем небясьпеку засяленьня маці-Беларусі чужаземцамі, што ўжо адкрыта прапагандуе дыктатарская ўлада пад прыкрыцьцём патрэбы росту эканамічных паказчыкаў краіны, у выніку чаго беларусы стануць чужакамі на сваёй спрадвечнай зямлі, гэтак жа, як і беларускую мову й культуру гэтая ўлада робіць чужымі ў сваёй дзяржаве.

Таму шануем нашых продкаў, у кожным пакаленьні якіх былі змагары за свой вольны Беларускі дом пад хрысьціянскім эўрапейскім дахам. І ў наш час шмат людзей разумеюць неабходнасьць змагацца за гэта, хоць ня ўсе і не заўсёды адкрыта можам паступаць так, як падказваюць нам сэрца і вера, але кожны можа ўзьнесьці да Госпада малітву за Беларусь, за ейных змагароў, асабліва за пакутуючых у зьняволеньні й на выгнаньні, і за ўсіх ліцьвінаў-беларусаў, якія жывуць на Бацькаўшчыне і ў Замежжы.

У многіх праваслаўных малітвах заўсёды просім Госпада: «... і пазбаў нас ад міжусобіцаў і ад нашэсьця чужынцаў...» — і дзяржаву нашу Беларусь і Царкву! І каб беларускія калядніки заўсёды па-беларуску віншавалі:

Хрыстос нарадзіўся! Слаўце Яго !

*Зь любасьцю й малітвамі,*
*+ Сьвятаслаў,*
*Архіяпіскап Навагрудзкі, Першагерарх*
*Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы*

## Ялінка-2014, Нью-Ёрк



З усіх калядных сьвятаў найбольш прывабным для малодшых беларусаў у Нью-Ёрку ёсьць штогадовая Ялінка. Сёлета яна ладзілася 12 студзеня ў грамадзкай залі на Атлянтык Авэню. Сабралася вясёлая грамада дарослых і дзяцей – ад самых маленькіх да падросшых вучняў. Некаторых з дзяцей ужо цяжка было пазнаць, так яны падрасьлі за год пасьля мінулагодняй сустрэчы на Ялінцы, як Яна Капытка, што выглядала ў свае два гады маленькаю прынцэсаю.

Дзеці гулялі і весяліліся, аглядалі з захапленьнем прыгожа аздобленую ялінку. Задаволенымі выглядалі і іх бацькі, бабулі і дзядулі. Ім таксама надарылася добрая нагода сустрэцца, пагаварыць, падзяліцца навінамі, пахваліцца посьпехамі дзяцей. Некаторыя хваляваліся, бо разам з дзецьмі рыхтаваліся да выступу. Дзеці зараней рыхтаваліся да сьвята, каб дагадзіць сваім уменьнем Сьвятому Мікалаю ды атрымаць ад яго падарунак.

Парафіяльная рада Сабору Сьв. Кірылы Тураўскага і Сястрынства паклапаціліся не толькі пра забавы, але і пра смачны пачастунак, стравы былі дабраныя як для дзяцей так і для дарослых ды спажываліся з вялікім апетытам.

Аднак, усе чакалі галоўнага моманту – калі нарэшце завітае на наша сьвята Сьвяты Мікалай з падарункамі. І гэты момант надышоў, заскрыпелі дзьверы, паволі адчыніліся і на парозе зьявіўся з вялікім мехам Сьвяты Мікалай і прывітаў усіх прысутных са сьвятам. Трэба было бачыць як зазіхацелі

*Заканчэньне на 2-й бачыне*

# Ялінка 2014, Нью-Ёрк

Заканчэньне з 1-й бачыны.







радасьцю вочкі дзяцей, асабліва самых маленькіх, усіх ахапіла радаснае адчуваньне сьвяточнасьці, нават казачнасьці моманту. Дзеці тут жа абкружылі госьця гаманлівым натоўпам. Найбольш сьмелыя выбраліся наперад, дакраналіся да сьвяточнай вопраткі Сьв. Мікалая. А ён тасама быў узрадаваны такім сардэчным прыёмам і запрасіў дзяцей паказаць, чаму яны навучыліся за мінулы год. І тут пайшлі вершыкі, песенькі – гэта самыя маленькія паказвалі сваё умельства, хоць і саромеліся некаторыя, але ж надта хацелася атрымаць падарунак. А Сьвяты Мікалай не скупіўся, даваў шчодрыя падарункі за кожны выступ.



Пасьля малодшых надыйшла чарга і старэйшых. З вялікім захапленьнем усе прысутныя глядзелі на прыгожыя бальныя танцы, якія дэманстраваў са сваёю партнёркаю Лявон Дудараў, сын Віктара і Алены Дударавых.

Пасьля гэтага імправізаванага канцэрта сьвята працягвалася. Дзеці з бацькамі вадзілі карагоды вакол ялінкі, сьпявалі, фатаграфаваліся на памяць. Некаторыя з гэтых здымкаў падаем тут, каб вы адчулі атмасфэру сьвята і калі не былі там, каб пашкадавалі ды ў наступным годзе не прапусьцілі нагоды пабыць на беларускай Ялінцы ў Нью-Ёрку. Спадзяемся, што гэтая добрая традыцыя прадоўжыцца і надалей.

*Ганна Сурмач.*

*Фота Сержа Трыгубовіча.*

## На ялінкавым фэстывалі ў Нью- Джэрзі



Амэрыканска-мадзярскі цэнтар у Нью-Брасўіку (штат Нью-Джэрзі) у канцы сьнежня – пачатку студзеня ладзіў фэстываль калядных ялінак. Быў ён ужо 25-ы па ліку. Беларусы шмат гадоў зьяўляюцца сталымі ўдзельнікамі фэстывалю. Запачаткавала гэтую традыцыю мастачка й грамадзкая актывістка Галіна Русак. Ад яе праект пераняў Серж Трыгубовіч.

Спонсарам сёлетняга паказу выступіла Беларуская праваслаўная царква Жыровіцкае іконы Божае Маці (БАПЦ), што месьціцца ў Гайлэнд-Парку. Аздабленьнем ялінкі займаліся спадарыні Каця Рэзьнікава й Надзя Запруднік. Амаль усе цацкі на беларускай ялінцы па-майстэрску выраблены ў народных традыцыях – з саломкі, і гэта вылучае яе сярод іншых, ня менш прывабных і маляўнічых. Неаднаразова менавіта беларуская ялінка рэпрэзэнтавала фэстываль на рэклямных плякатах і запрашэньнях.

*Сьцяпан Андрэйчык.*

## Ялінка у Саўт Рывэры



Традыцыйная калядная ялінка ў Саўт Рывэры адбылася сёлета, як і папярэднімі гадамі, урачыста й весела, дзякуючы стараньням спадарыняў Тацьцяны Дзямешчык і Вілы Леўчук, а таксама групы дзяўчат, якія выканалі калядны карагод вакол Дзеда Мароза. Сьвяткаваньне адбылося ў нядзелю 12 студзеня ў Беларуска-Амэрыканскім Цэнтры пры царкве сьв. Еўфрасіньні Полацкай .

## Нью-Ёрк чытае Уладзіміра Дубоўку па-беларуску

Напрыканцы 2013 году ў нью-ёркскім выдавецтве LIBERTY убачыла свет кніга прозы Леаніда Левановіча. У яе ўвайшла аповесьць "Дух Амерыкі Бостанскі дзённік", апавяданьні, эсэ "Самародак" пра знакамітага паэта, празаіка, эсэіста Масея Сяднёва, які прайшоў Калыму, працаваў на Радыё Свабода, доўга жыў і памёр у ЗША. Кніга выйшла ў аўтарскім перакладзе на расейскую мову, але выняткі з вершаў беларускіх паэтаў даюцца на роднай мове.

Радкі Уладзіміра Дубоўкі:

*Ніяк не знойдзе шчасця чалавек,*
*Хоць да канца ідзе дваццаты век.*

аўтар узяў эпіграфам да філасофскага апавяданьня "Век".

Нядаўна ў кнігарні №21 на Пятай авеню Манхэтана з посьпехам прайшла прэзэнтацыя выданьня. Кніга мае даволі сьмелую назву "Оргазм в варшавском отеле", але ў ёй няма распусты, залішняй эротыкі. Аўтар славіць высокае каханьне мужчыны да жанчыны, гэта вельмі важна ў наш час.

Кніга Леаніда Левановіча – гэта Амэрыка вачыма беларускага пісьменьніка. І ў гэтым яе асаблівая вартасьць і прывабнасьць.

*Аляксей Каранеўскі,*
*Бостан*

# Слава Украіне! Жыве Беларусь!



Прагназавалася, што Эўрамайдан у Кіеве паступова сам па сабе скончыцца, марозы зробяць сваю справу і людзі не вытрымаюць і пачнуць разыходзіцца. Можа так бы яно і сталася, але ў Януковіча здалі нэрвы, і ўлада прымяніла сілу дзеля разгону пратэстоўцаў, што выклікала супраціў дэманстрантаў і ўзьняло іх рашучасьць змагацца далей. Акцыі пратэсту пашырыліся на большасьць рэгіёнаў Украіны, змаганьне набыло большую вастрыню і прывяло нарэшце да адстаўкі ураду. Улады спрабавалі перамагчы з дапамогаю ўвядзеньня рэпрэсіўных законаў, але гэта ім пакуль не ўдаецца. Змаганьне за дэмакратычную вольную Украіну працягваецца. Беларуская дэмакратычная грамадзкасьць выказвае падтрымку і салідарнасьць з украінскімі дэманстрантамі, а ёсьць і тыя сьмелыя, хто непасрэдна прысутнічаюць на Майдане і ставяць пад небясьпеку сваё жыцьцё.

На жаль, барацьба набыла такую вастрыню, што прывяла да чалавечых ахвяраў, колькасьць якіх да сёньня яшчэ цалкам невядомая. 22 студзеня з агнястрэльнай зброі на барыкадах на вуліцы Грушэўскага былі забітыя беларус Міхаіл Жызьнеўскі і жыхар Днепрапятроўска армянскага паходжаньня Сяргей Нігаян. Міхаіл Жызьнеўскі быў забіты выстралам у сэрца, ён меў пры сабе драўляны шчыт, які абараняў ад гумовых куляў, але гэтым разам стралялі сапраўднымі, баявымі. Куля прабіла шчыт і забіла хлопца, стралялі на паражэньне. Міхаіл браў самы актыўны ўдзел у пратэстах, быў у ахове Майдану. Ён прыехаў з Беларусі ў 2005 годзе. Паплечнікі распавядаюць, што на радзіме хлопцу пагражаў крымінальны перасьлед, згадваюць, што ён заўсёды пазыцыянаваў сябе беларусам, фатаграфаваўся зь беларускімі сьцягамі, сустракаўся зь беларусамі, абменьваўся кантактамі і гаварыў па-беларуску. Хлопец яшчэ да падзеяў на Майдане далучыўся да украінскага нацыянальна-вызваленчага руху, быў сябрам УНА-УНСО. Адзін зь лідараў гэтай арганізацыі, Мікола Карпюк, так выказаўся пра Міхаіла: «Жызьнеўскі Міхаіл Міхайлавіч, 1988 году нараджэньня. Ён быў сябрам УНСО... Вельмі талковы быў хлопец. Малады, энэргічны, разумны. Працаваў у Белай Царкве. Як унсовец быў вельмі дысцыплінаваны, вышкалены і азартны. Таму ўвесь час быў на самых перадавых пазыцыях. Ён зь першага дня на Майдане, на барыкадах. Малайчына. Сапраўдны герой. Беларуская нацыя павінна ім ганарыцца. І украінская нацыя будзе аддаваць яму славу і гонар...

Хачу падзякаваць братняй беларускай нацыі за такога сур'ёзнага мужчыну. Ён сапраўдны герой».

26 студзеня ў Кіеве адбылася паніхіда і разьвітаньне з загінулым Міхаілам Жызьнеўскім у Міхайлаўскім саборы.

Прыйшло шмат людзей, у тым ліку і трое лідараў украінскай апазыцыі — Віталь Клічко, Арсень Яцэнюк і Алег Цягнібок.

Зь Беларусі прыехаў Уладзімер Някляеў прыехаў, каб разьвітацца з героем-земляком: «Людзі ішлі і крычалі: "Дзякуй, Беларусь!". У мяне горла сьціснулася.... Гэта такая высокая і трагічная дзея... Людзі




ідуць і плачуць... І разам з тым велізарная вера і рашучасьць у вачах. Гэта 50-100 тысяч чалавек. Яны крычаць „Герой!"... Я проста прыехаў зь ім разьвітацца, сказаць яму "дзякуй" — і больш нічога...»

Пасьля труну зь целам Міхаіла прынесьлі да Майдана, пагрузілі ў машыну і павезьлі да першай барыкады на рагу Хрышчаціка і Грушэўскага. Труну прынесьлі на тое месца на вуліцы Грушэўскага, дзе Міхаіл быў забіты.

Напярэдадні памяць загінулага ўшанавалі ў Белай Царкве пад Кіевам, дзе Жызьнеўскі некаторы час жыў пасьля таго, як зьехаў зь Беларусі. Людзі запалілі лампадкі і прынесьлі кветкі.

Усе мерапрыемствы па ўшанаваньні памяці Міхаіла Жызьнеўскага і дастаўцы цела ў Беларусь адбываліся за грошы, сабраныя грамадзкасьцю з Украіны, Беларусі і іншых краінаў.

Вечарам 28 студзеня на могілках каля пасёлка Сьцяг Працы пад Гомелем адбылося пахаваньне Міхаіла Жызьнеўскага. Труна зь целам была дастаўленая да месца пахаваньня амаль з васьмігадзінным спазьненьнем — у 19:45. Як растлумачыў бацька загінулага, гэта было выклікана складанымі ўмовамі надвор'я ў дарозе, затрымкай на мяжы, а таксама мерамі бясьпекі з боку ўкраінскіх сяброў, каб пазьбегнуць перасьледу з боку спэцслужбаў.

На пахаваньні прысутнічалі маці й сястра Жызьнеўскага, прадстаўнікі грамадзянскай супольнасьці й палітычных партый, якія прыйшлі з украінскімі і бел-чырвона-белымі сьцягамі, а таксама журналісты недзяржаўных СМІ. Адпяваньне правёў вядомы праваслаўны сьвятар Леанід Акаловіч. Перад пахаваньнем труна была накрытая бел-чырвона-белым сьцягам.

*Ганна Сурмач*

# Рада БНР выказала заклапочанасьць

У адмысловай заяве Рады ад 24 студзеня 2014 гаварылася: "Дзеяньні ўладаў, якія прыводзяць да забойства ўдзельнікаў вулічных дэманстрацый, нічым ня могуць быць апраўданыя. Сьмерці актывістаў «Эўрамайдана» павінны быць пільна і празрыста расьсьледаваныя, а адказныя асобы павінны быць прыцягнутыя да адказнасьці ў адпаведнасьці з законам.

Рада БНР выказвае сваю салідарнасьць і падтрымку ўкраінскаму народу, які змагаецца за свабоду і дэмакратыю супраць дыктатуры, беззаконьня і неаімпэрыялізма. Супраціў украінскага народа спробам усталяваньня аўтарытарнага рэжыму дае надзею на вызваленьне ад дыктатуры ўсім народам нашага рэгіёна, і асабліва беларусам".

# Ігар Ліхавы: Я ўдзячны беларусам за тое, што яны на Майдане

Ігар Ліхавы, былы надзвычайны і паўнамоцны амбасадар Украіны ў Беларусі (2007–2010), дзякуе беларусам за тое, што яны побач з украінцамі на супольным шляху да свабоды.

«Я не магу тут не згадаць Міхаіла Жызьнеўскага. Мне вельмі дарагі беларускі народ.... Але на Майдане заўжды быў беларускі сьцяг, заўжды я размаўляў з гэтымі хлапцамі, можа, нават і з Жызьнеўскім, заўжды гучала «Слава Украіне! Жыве Беларусь!». Нам важна, што беларусы разам з намі ў барацьбе за свабоду на ўсходзе Эўропы».

# Паніхіда па Міхаілу Жызьнеўскім у Нью-Ёрку

26 студзеня ў Катэдральным Саборы БАПЦ Сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне (Нью-Ёрк, ЗША) была адслужана паніхіда па беларусу Міхаілу Жызнеўскім, забітым на кіеўскім Майдане 22 студзеня.

Паніхіду адслужыў украінскі сьвятар айцец Іван, які знаходзіцца ў місійнай паездцы у ЗША.

# Багаслужба ва Ўкраінскай грэка-каталіцкай царкве ў Мангэтане

2 лютага у Саборы Сьв. Юры украінскай грэка-каталіцкай царквы у Мангэтане адбылася багаслужба і паніхіда па загіблых на Майдане, сярод якіх два украінцы, армянін і наш беларус – Міхаіл Жызьнеўскі. Маладыя украінцы трымалі партрэты гэтых герояў пад украінскімі і беларускімі сьцягамі. Арганізатары запрасілі на ўрачыстасьць прадстаўнікоў БАЗА і там прысутнічалі Ганна Сурмач і Уладзімір Караткевіч. Украінцы дзякавалі нам, што мы прыйшлі іх падтрымаць. А мы ў сваю чаргу выказалі ім падтрымку ад імя амэрыканскіх беларусаў.



# Пра Беларусь у цэнтры Амэрыкі



Пра Беларусь у цэнтры Амэрыкі згадвалася, распавядалася, паказвалася і слухалася цягам цэлага тыдня сёлета ў сярэдзіне студзеня. Вартбургскі каледж (Wartburg Colledge), які быў заснаваны ў 1875 годзе і дзейнічае ў горадзе Уэвэрлі ( Waverly), штат Аёва, арганізаваў адмысловы "Беларускі тыдзень", каб пазнаёміць студэнтаў і выкладчыкаў з краінаю у сярэдзіне Эўропы, якая апынулася пад увагаю амэрыканскай зьнешняй палітыкі з-за панеючага там дыктатарскага рэжыму.

Штат Аёва знаходзіцца на поўначы сярэдзіннай ці, можна сказаць, цэнтральнай частскі ЗША. Гэты сельскагаспадарчы рэгіён Амэрыкі мае ня толькі тыповы беларускі раўнінны краявід, але і падобную нам ментальнасьць насельніцтва. З самага дзяцінства я засвоіла галоўны запавет маіх бацькоў і бальшыні жыхароў майго гарадзенскага краю: "трэба добра вучыцца, перад усім - здабываць адукацыю". Дык вось, штат Айова займае адно з першых месцаў у ЗША па адукаванасьці і наяўнасьці адукацыйных цэнтраў. Пад час выступаў на імпрэзах "тыдня" кіраўнікоў і прафэсараў каледжа увесь час згадвалася пра тое, як там клапоцяцца пра якасьць адукацыі, пра пашырэньне кругагляду навучэнцаў, пра тое, каб ня толькі даць студэнтам веды, але заахвоціць іх да самастойнай працы, дапамагчы сфармаваць у іх здольнасьць да аналізу інфармацыі і эфэктыўнага выкарыстаньня яе ў прафэсійнай дзейнасьці. І вось у кантэксьце гэтых падыходаў кіраўніцтва каледжу зацікавіла і беларуская тэма. Ініцыявала яе прафесарка каледжа Паўліна Сурвілла, яна сустрэла актыўную падтрымку прэзыдэнта каледжу Дэрыла Колсана, іншых прафэсараў і цэлай адміністрацыі. Да ідэі правядзеньня "Беларускага тыдня" яны паставіліся зь вялікай адказнасьцю і арганізавалі ўсё, як мне бачылася, на самым высокім узроўні.

У якасьці ганаровых гасьцей і выступоўцаў зь лекцыямі былі запрошаныя сп. Станіслаў Шушкевіч - былы старшыня Вярхоўнага Савета Беларусі, сп. Дэйвід Суорц – першы амбасадар ЗША у Беларусі, а цяпер сукіраўнік Цэнтру Беларускіх дасьледаваньняў у Канзасе, сп-ня Івонка Сурвілла – старшыня Рады БНР. За подпісам прэзыдэнта каледжу сп. Колсана запрашэньне атрымала і Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне. Таму і мне надарылася магчымасьць у гэты зімовы марозны час з перасадкамі ляцець ў Аёву і свaімі вачыма пабачыць добрыя, шчырыя адносіны да нас, беларусаў, з боку амэрыканскай навуковай інтэлігенцыі. Гэтая паездка дала вельмі шмат дзеля большага пазнаньня Амэрыкі і яе гасьціннага народу, а таксама дзеля новых кантактаў як з амэрыканцамі так і з тамашнімі беларусамі, якія таксама знайшліся.

Да Уэвэрлі я дабралася пад вечар 15 сьнежня. У папярэднія два дні ў каледжы ўжо прачыталі некалькі лекцый для студэнтаў сп-ня Сурвілла і сп. Шушкевіч. Назаўтра, 16 студзеня, чакаўся асноўны выступ сп. Суорца. Лекцыя адбывалася ў вялікай актавай залі, і не магло не парадаваць нас тое, што заля была поўная, прыйшлі як студэнты, так і выкладчыкі. Усе зацікаўлена слухалі. Пытаньні да дакладчыка былі перанесеныя на другую, пасьляабедзенную частку сустрэчы, якая была абазначаная ў праграме як Панэльная дыскусія па Беларусі. Слухачоў у залі не паменшала і нават дадалося журналістаў мясцовых газэтаў і тэлебачаньня. На пытаньні адказвалі сп. Суорц, сп-ня Сурвілла і сп. Шушкевіч, якія сядзелі за сталом на сцэне. Аўдыторыя выявіла актыўную зацікаўленасьць, задавалася шмат пытаньняў. З увагаю былі выслуханы кароткія выступы сп-ні Сурвіллы і сп. Шушкевіча. Некаторыя з прысутных выявілі добрую абазнанасьць у беларускіх справах і пытаньні іх былі глыбокімі па зьместу.

У гэты дзень мы набылі шмат сяброў і прыхільнікаў Беларусі, данесьлі інфармацыю пра сытуацыю на нашай Бацькаўшчыне да шырэйшых колаў амэрыканскага грамадзтва. Добра паспрыялі гэтаму мясцовыя журналісты, якія запісалі інтэрвію, рабілі фота і відэа і потым мы бачылі ў мясцовых выданьнях гэтыя інфармацыі, што займалі не апошнія старонкі ў выпусках. Адзін з журналістаў паведаміў, што ягоныя бацькі паходзяць з Беларусі і таму ён прыйшоў, каб падаць інфармацыю пра беларускіх гасьцей у сваю газэту. Там я бліжэй пазнаёмілася з адной вельмі актыўнай журналісткаю, якая нядрэнна размаўляла па расейску. Калі яна назвала прозьвішча – Дзімітрава, адразу пазнала ў ёй баўгарку, што яна і пацьвердзіла. Я мела вопыт кантакту з баўгарамі, калі жыла ва ўцякацкім лягеры ў Чэхіі у адным блёку з баўгарскай сям'ёю, таму мы лёгка сышліся і доўга размаўлялі, седзячы за адным сталом на вячэры. Анэля аказалася ня толькі журналісткаю, але і прафэсаркаю іншага каледжу, дзе выкладала журналістыку. Пасьля яна зрабіла добры відэарэпартаж пра нашыя імпрэзы.



Пасьля Панэльнай дыскусіі прысутныя яшчэ доўга не разыходзіліся, многія падыходзілі да гасьцей пагаварыць, запытацца нешта, сфатаграфавацца разам. Сярод іх была маладая жанчына, якая прыехала спэцыяльна пабачыцца з суродзічамі. Паліна Хацько аказалася з Барысава, жыве ў Амэрыцы каля 20 гадоў, выкладае музыку (піяніна) ў суседнім унівэрсытэце (University of Northern Iowa), добра гаворыць па-беларуску. Абмяняліся кантактамі і я паабяцала ёй дасылаць нашу газэту і дала некалькі асобнікаў.

Пасьля цёплых сустрэчаў мы сталі пачуваццa ў Аёве, як дома. За шмат гадоў выгнаньня я пабачыла такія блізкія, знаёмыя краявіды – палі, ляскі там-сям, гурбы сьнегу і добры прымаразак, як у дзяцінстве. Праўда, усё лепш упарадкавана, дагледжана і хаты багацейшыя. А людзі, як у нас, – прыветныя. Як толькі ў Чыкага я перасела ў невялікі мясцовы самалёцік, каб ляцець у Аёву, мой сусед у салёне адразу запытаўся: "Is Iowa your home?" Відаць, хацеў паразмаўляць пра мясцовыя навіны, але я адказала, што, на жаль, Аёва ня ёсьць маім домам і буду там толькі госьцем.

Вельмі прыветна ставіліся да нас выкладчыкі і супрацоўнікі каледжу, больш блізкія кантакты з імі адбываліся ў нас пад час сумеснага абеду і афіцыйнага банкету. Арганізатары расьпісалі так месцы за сталамі, каб мы былі сярод мясцовых і больш раззнаёміліся ў сяброўскіх гутарках. Гэта аказалася сапраўды карысным і цікавым. Мы распавядалі пра Беларусь, кожны пра сябе і яны таксама прадстаўляліся нам. Сярод нашых суседзяў пры стале я пабачыла знаёмы твар жанчыны, пра якую прачытала перад гэтым у мясцовай газэце, што не ня ядаўна на выбарах абралі ў гарадзкую адміністрацыю. Павіншавала яе і яна была прыемна зьдзіўленая. Родам яна з Эўропы, з Аўстрыі, добра гаворыць па-нямецку. Увогуле, гэты рэгіён населены эмігрантамі з Нямеччыны, Аўстрыі і таму ў аэрапорце, у крамах пытаюцца, ці гаворыш па-нямецку і мне гэта часам дапамагала, хаця нямецкую ўжо зусім амаль забылася.

Пад час абеду мы былі ўражаныя тым, як былі падабраныя букеты жывых кветак на сталах – у бел-чырвона-белых колерах з укрэпленымі васількамі. Дзе толькі раздабылі гэтыя васількі зімою? Але, як сказалі, адна жанчына знайшла. Гэта Амэрыка, тут ёсьць усё, не раз давялося пераканацца.

Вячэра, а дакладней сказаць - густоўны банкет, стаў своеасаблівым працягам афіцыйных мерапрыемстваў. Напачатку было афіцыйнае прадстаўленьне і знаёмства з традыцыйным поціскам рук, потым кароткія прамовы прэзыдэнта каледжу і з нашага боку, абмен падарункамі і сувэнірамі. Але стрыжнем праграмы быў выступ студэнцкага хору. У каледжы іх чатыры, гэты быў з найбольшых – 76 чалавек зайшлі ў залю, выстраіліся паўкругам і першым прасьпявалі адзін з вядомых амэрыканскіх гімнаў. А потым загучаў наш "Магутны Божа", па-беларуску, амаль без акцэнту сьпявалі амэрыканскія студэнты ў далёкай Аёве, і я не магла стрымаць сьлёз. Ды і ўсе прысутныя былі моцна ўзрушаныя. Гэты падарунак падрыхтавала ўсім нам Паўлінка Сурвілла, яна развучвала са студэнтамі тэкст і



*Справа налева: Д. Суорц, П. Сурвілла, С. Шушкевіч, Д. Колсон, І. Сурвілла, Ганна Сурмач*

мелёдыю. І цяпер надыйшла чарга, каб распавесьці больш пра яе, галоўнага ініцыятара і арганізатара гэтага беларускага сьвята ў цэнтры Амэрыкі.

Сп. Паўліна вельмі сьціплы чалавек і, напэўна, не ўхваліла б мой намер напісаць пра яе шмат добрых словаў. Але, мушу гэта зрабіць, бо яна заслугоўвае. Шмат хто ведае, што Паўліна – дачка Івонкі і Янкі Сурвіллаў. Зь дзяцінства яна была далучаная да беларускага жыцьця, але шмат хто зь дзяцей эмігрантаў быў далучаны, ды не застаўся пры беларускай справе надалей. Паўлінка не толькі засталася, але і сталася актыўнай прапагандысткаю беларускай культуры ў Амэрыцы. Ужо 20 гадоў яна працуе прафэсаркаю ў Вартбургскім каледжы, выкладае этнамузыкалёгію. Вывучала у Беларусі музычную культуру новага часу, музычны рок і на гэтую тэму напісала дысэртацыю, выдадзеную ведамым амэрыканскім выдавецтвам. Яе студэнты добра ведаюць што за краіна Беларусь і яе культура. Паўліна таксама зьяўляецца кіраўніком Цэнтра беларускіх дасьледаваньняў у Канзасе. Яна любіць і ўмее працаваць з моладзьдзю, у каледжы яе паважаюць і любяць. Кіраўнікі каледжу выказвалі падзяку Івонцы за такую дачку і называлі Паўлінку адным з найлепшых прафэсараў. Прыемна было і нам усім гэта чуць і бачыць. Вось так, дастаткова працы нават аднаго актыўнага і адказнага чалавека, каб цэлы амэрыканскі каледж зацікавіць беларушчынаю.

Першы раз я пазнаёмілася з Паўлінкаю гадоў дваццаць таму(дакладны год не памятаю) калі яны з мужам Эрыкам прыязджалі ў Менск і давалі канцэрт у Доме дружбы з замежнымі суайчыньнікамі. Эрык іграў на кларнэце, а Паўлінка выконвала ролю вядучай. Цяпер муж Паўлінкі кіруе дэпартмантам музыкі ў Вартбургскім каледжы і ўсялякім чынам спрыяе і дапамагае жонцы ў беларускіх справах. У іх двое падрослых сыноў, старэйшы зь сябрам прыходзіў на беларускія лекцыі і відавочна цікавіцца тым, што адбываецца ў краіне ягоных продкаў. Бліжэйшае знаёмства з Паўлінаю, зь яе сям'ёю, з тою працаю, якую яна робіць, сталася для мяне прыемнай старонкаю ў гэтым падарожжы. Здаецца, і ведала ўсё пра яе, але лепш пабачыць на ўласныя вочы, каб больш шанаваць і па магчымасьці падтрымліваць яе, працаваць разам, каб захоўваць беларускае жыцьцё ў Амэрыцы.

Радая была яшчэ раз пабачыцца са сп. Сурорцам. Ведаемся ўжо доўгія гады, але толькі гэтым разам пазнаёмілася бліжэй і была ўражаная ягонай энэргічнасьцю, актыўнасьцю, аддانасьцю ў працы дзеля нас, беларусаў. Даведалася, што стала ён жыве ў Індыяне. Выбраўся ў Аёву ў халады, адзін на аўто, а дарога займае дзесяць гадзінаў. А якую зьмястоўную, грунтоўную лекцыю падрыхтаваў пра сытуацыю на постсавецкай прасторы і ў Беларусі, у прыватнасьці, зь якою выступіў, даў некалькі інтэрвію, чытаў іншыя лекцыі студэнтам. А потым ізноў - у далёкую дарогу дамоў. Я нават захвалявалася, кажу: "Як Вы адзін паедзеце ў такую дарогу?". А ён кажа: "А, нічога, неяк даеду, няпершы раз". Вось дзе прыклад для многіх нашых маладзейшых ды лянівых новых эмігрантаў, што на беларускую імпрэзу ў Брукліне не могуць дабрацца.

Таксама і сп. Шушкевіч у свае немаладыя гады пераадолеў акіян і паў-Амэрыкі, каб падтрымаць сваім удзелам "Беларускі тыдзень" у Аёве. А я яшчэ сумнявалася, як дабяруся туды з Нью-Ёрку.

Сп. Івонка Сурвілла была ў дарозе значна больш за мяне. У Канадзе халады, настудзілася, пачувала сябе ня надта здароваю, але мужна вытрымала ўсю праграму, прамаўляла, давала інтэрвію, чытала лекцыі і, здавалася, не адчувала стомы. Цешылася з посьпехаў дачкі і магчымасьці больш распавядаць пра Беларусь. Цікавасьць да яе асобы, як прэзыдэнта ўраду ў экзылі, была вельмі вялікая.

Добрыя ўражаньні ад новай сустрэчы пакінуў даўно мне знаёмы Віталь Воранаў, які зараз робіць дактарат у Канзасе, а нашым чытачам больш вядомы, як актыўны беларускі дзеяч у Познані. Ён меў абавязак перакладчыка сп. Шушкевіча і так выдатна спраўляўся зь ім, што было прыемна глядзець на добрую прафэсійную працу. Далей яны са сп. Шушкевічам накіраваліся ў Канзас і Віталь ужо стаўся адмысловым кіроўцам аўта. Наперадзе іх таксама чакала доўгая дарога ў мароз і сьнег, аднак на поўдзень, дзе значна цяплей.

Сьвята скончылася, але ў душы засталася цеплыня ад сустрэчы з ранейшымі і новымі сябрамі. Пры разьвітаньні са сваімі пыталіся, дзе сустрэнемся ў наступны раз. У якіх толькі краінах ні бачылася я з кожным зь іх – у Празе, у Польшчы, у Нью-Ёрку, у Канадзе, Лёндане. Толькі вось на Бацькаўшчыне ня можам пакуль сабрацца, але дзеля такой сустрэчы ў вольнай Беларусі і езьдзім па сьвеце, распавядаем пра нашу краіну і яе праблемы, шукаем і знаходзім падтрымку сумленных людзей.

*Ганна Сурмач*

# Віншаваньні палітвязьням



Беларусы Нью-Ёрку ў сьнежні паслалі Калядныя ды навагоднія віншаваньні – паштоўкі з выявамі New York City – палітычным вязьням рэжыму Аляксандра Лукашэнкі (праз пасярэдніцтва менскай праваабаронцы). Першы адказ прыйшоў у студзені тым самым, толькі адваротным, шляхам.

Падаем фрагмэнт зь ліста Алеся Бяляцкага, сьведама апускаючы ўсе імёны: «Паштоўкі ад (...) я атрымаў у 2-х канвэртах. Перадай усім, калі ласка, маю падзяку й віншаваньні з Божым нараджэньнем. У мяне ўсё па-ранейшаму. Настрой сьвяточны. Бо для Ісуса Хрыста няма кратаў і дроту, і Ён сюды таксама паслаў Добрую навіну».

*В.Т.*

***Мікалаю Аўтуховічу, палітычнаму вязьню, мужнаму чалавеку, свабоды якога мы дамагаемся***

Шаноўны спадар Мікола!

Сардэчна віншуем Вас з днём народзінаў!

7 студзеня – якраз у Ваш сьвяточны дзень – шмат хто з нас будзе адзначаць Хрыстовае Нараджэньне, усьлаўляць таго, хто прыйшоў у гэты сьвет, каб Дабро заўсёды перамагала Зло. І мы верым, што так яно ўрэшце рэшт і станецца, але барацьба ідзе пастаянна, штодзень. Вы сталіся чарговаю ахвяраю сілаў Зла, несправядлівасьці, зайздрасьці



дробных душаў да ўсяго моцнага й незалежнага ды іхнай помсьлівасьці.

Трымайцеся! Мы салідарныя з Вамі й робім усё, што ў нашых сілах, каб шырокая грамадзкасьць, увесь цывілізаваны сьвет ведаў пра зьдзекі й гвалт, якія чыняцца над Вамі ў Беларусі, мы выкрываем сыстэму – "вэртыкаль" і яе кіраўніка, якія душаць ініцыятыву й прадпрымальнасьць людзей, якія асуджаюць карупцыю на словах, а ў сапраўднасьці заахвочваюць яе, бо такім чынам уладу трымаючыя маюць кампрамат на кожнага з чыноўнікаў і могуць маніпуляваць імі ў сваіх уласных інтарэсах.

Просім Вас не губляць жыцьцёвага аптымізму ў самых цяжкіх сытуацыях. Зычым стойкасьці й цярпеньня. Мы верым у Вашу развагу, цярплівасьць і вытрымку, спадзяемся ўбачыць Вас вольным і заможным, а нашу родную Беларусь – шанаванай краінай Эўропы.

З найлепшымі зычэньнямі з нагоды Вашага дня народзінаў і выказваньнем глыбокай пашаны,

*беларусы Нью-Ёрку – сябры грамадзкіх арганізацый Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне і "Беларусы ў выгнаньні"*

*31 сьнежня 2013 году.*

# Прызнаньне ў любові. Ліст да Якуба Коласа

*Гэты ліст мы атрымалі ад пісьменьніка Леаніда Левановіча, які зараз часова знаходзіцца ў Бостане. Як сапраўдны творца, ён знайшоў арыгінальны спасаб падзяліцца набалелым пра сытуацыю з нацыянальным жыцьцём на Бацькаўшчыне.*

Дарагі дзядзька Якуб!

Ліст да Вас у думках я пачаў пісаць яшчэ ў школьныя гады, калі прачытаў Вашы аповесьці "У палескай глушы" і "У глыбі Палесься". Творы гэтыя вельмі ўразілі мяне, вясковага хлапчука. Я таксама жыў у глушы. Маці мая абсалютна непісьменная, бацька скончыў тры клясы. У вёсцы не было ні электрычнасьці, ні радыё. Да пятнаццаці гадоў я ні разу не фатаграфаваўся, ня быў у горадзе, апрача райцэнтра, ня езьдзіў цягніком. Вашы кнігі, як і творы іншых беларускіх, расейскіх, замежных пісьменьнікаў адчынялі мне вялікі сьвет. Як зараз памятаю: прачытаў Вашу аповесьць "На прасторах жыцьця", якая ўразіла гэтак моцна, што захацелася пайсці ў вёску Забор'е, каб адшукаць там героя аповесьці Сцёпку Баруту. О, сьвятая наіўнасьць! Я вырасшы, што Вы трохі памянялі назву вёскі Загор'е заместа Забор'я. Пра тое, што мястэчка Забор'е, куды вяскоўцы хадзілі ў Пятроў дзень на кірмаш, гэта ўжо Бранская вобласьць, Расея, тады я нават не падумаў. Як бачыце, я нарадзіўся на сумежжы Беларусі і Расіі, на беразе невыказна прыгожай Бесядзі. Вядома, яна не такая вялікая, як Ваш Нёман, але для мяне яна самая прыгожая і самая родная.

З Вашай Стаўбцоўшчыны, зь берагоў Нёмана, услед за Вамі прыйшло ў літаратуру шмат таленавітых творцаў, але і зь берагоў Бесядзі вылецелі ў сьвет Аркадзь Куляшоў, Аляксей Русецкі, Масей Сяднёў, Васіль Хомчанка, Іван Чыгрынаў, Пятро Прыходзька, Леанід Яўменаў, Алесь Пісьмянкоў. Непадалёку ад нашых мясьцін нарадзіўся Аляксей Пысін. Якое сузор'е талентаў!

У думках я пісаў Вам ліст і ў студэнцкія гады, і ў сталыя. Асабліва захацелася пагутарыць з Вамі пасля таго, як прачытаў Ваша выступленьне на чэрвеньскім пленуме ЦК КПБ у 1953 годзе. Прабачце, дзядзька Якуб, тут я мушу трохі патлумачыць для чытача.

Пасля сьмерці "бацькі ўсіх народаў" Сталіна 12 чэрвеня 1953 года Прэзыдыюм ЦК КПСС прыняў пастанову "Пытаньні Беларускай ССР", у якой гаварылася, што ў Беларусі недаацэньваюцца мясцовыя кадры, што ў 7 райкамах партыі сярод сакратароў няма ніводнага беларуса, што работа апарату ЦК КПБ і Саўміна, мясцовых партыйных і савецкіх органаў вядзецца на расейскай мове. У Маскве вырашылі адклікаць з Беларусі Патолічава, рускага па нацыянальнасьці, які тры гады займаў пасаду першага сакратара ЦК КПБ, на яго месца рэкамендавалі беларуса Зімяніна. Той чэрвеньскі пленум быў унікальны, адзіны за ўсю гісторыю, калі і даклад, з якім выступіў Зімянін, і прамовы сакратароў абкамаў гучалі па-беларуску. Самым яркім было Ваша выступленьне, у якім Вы адзначалі, што "...родная мова выцясьняецца з ужытку нават такіх устаноў, як Акадэмія навук, Міністэрства асьветы, што на дарогах рэспублікі рэдка ўбачыш указальнік на роднай мове. Адзін масквіч любаваўся Менскам, а потм заўважыў: шкада толькі, што назвы ў вас пішуць з памылкамі. У слове "Комсомольская" пасля літары "с" напісана "а", а не "о". Аказалася, што ён прачытаў назву вуліцы па-беларуску. Гэта значыць, што ў Менску беларускае слова сустракаецца настолькі рэдка, што ўспрымаецца як памылка". Пад рогат залы Вы казалі далей, што сходы і мітынгі праводзяцца не на беларускай мове, а гаварыць з народам, рабіць перад ім справаздачы трэба на яго мове.

Дайшло да таго, што пачалі заўважацца пагардлівыя адносіны да беларускай мовы, высмейваньне тых, хто ёю карыстаецца, - са скрухаю гаварылі Вы далей. – Калі ў наша выдавецтва пазванілі і спыталі: "Гэта Дзяржкамвыдавецтва?" з другога боку пачуўся адказ: "Нет, это Госиздат".

Вы сьмела рэзалі праўду-матку ў вочы: многія кіраўнікі ўстаноў не разумеюць усёй важнасьці належнага падбору нацыянальных кадраў, опернаму тэатру даўно трэба перакласьці на беларускую мову ня толькі афішы, але і свой рэпэртуар. Апошнія Вашы словы: дружнай і суладнай работай мы выправім недагляды і дапушчаныя памылкі – патанулі ў громе воплескаў. Але была і яшчэ адна асаблівасьць таго пленума: ці не ўпершыню ў гісторыі КПСС нізы не пагадзіліся з рашэньнем цэнтра. Сакратары абкамаў, былыя партызанскія важакі, цалкам зрусіфікаваныя, выказалі просьбу, каб Масква не адклікала рускага Патолічава. Хай ён кіруе і далей. Узрадаваная Масква пайшла насустрач. Патолічаў застаўся ў Менску, а беларус Зімянін вярнуўся ў Маскву на дыпляматычную работу. Усе тагачасныя рэспублікі ўзмацнілі нацыянальныя кадры, выконваючы пастанову цэнтра, а менскія партбюракраты строга засакрэцілі рашэньні пленума.

О, каб Вы ведалі, шаноўны дзядзька Якуб, колькі мне давялося пахадзіць па розных кабінэтах, пакуль атрымаў дазвол пазнаёміцца з матэрыяламі пленума, прачытаць Вашу прамову! Уразіла, што на папках з дакуметамі стаяў штамп: строга сакрэтна, у чытальнай зале не выдаваць. Гэта значыць, што нават навуковыя супрацоўнікі гістпарта не маглі пазнаёміцца з матэрыяламі таго пленума. Во, як баяліся партыйныя функцыянэры беларускага слова! Як напалохаў іх Ваш палымяны выступ!

Пра падзеі 1953 г., пра чэрвеньскі пленум я напісаў раман "Дзікая ружа". Кніга вельмі хутка разышлася, аўтар сам застаўся бяз ружы, але гэта - аптымістычная трагедыя. Куды горш, што мой наступны раман "Сіняе лета" пра падзеі 1961, які працягвае эпічны цыкл, распачаты раманам "Шчыглы", шмат гадоў не можа прабіцца да чытача. У 1998-м ён быў надрукаваны ў часопісе "Полымя", праз два гады - у "Нёмане" на расейскай мове, а кнігі так і няма. Хоць я ўжо закончыў і пяты раман "Бесядзь цячэ ў акіян". Але пра нашы пісьменніцкія справы гаворка наперадзе. Хачу вярнуцца да Вашай дзейнасці, да Вашага змаганьня за родную мову. У маі 1956 г. Вы напісалі ліст, які меў назву: "У Бюро ЦК КП Беларусі". Ваш ліст – гэта крык душы, голас збалелага сэрца геніяльнага сына зямлі беларускай аб гаротным лёсе роднай мовы, аб яе практычным выцясьненьні і вынішчэньні. Адказу Вы не дачакаліся, а той самы Патолічаў, партыйная марыянетка, не пажадаў сустрэцца з Вамі.

Жыць Вам заставалася няпоўныя тры месяцы. У тым лісце Вы прапануеце некаторыя захады, каб палепшыць становішча нашай мовы. Ёсць такая прапанова: "Лягчэйшым за ўсё іншае мне здаецца такі шлях.У нас праводзіцца шмат рэспубліканскіх нарад, урачыстасьцяў, святкаваньняў. На іх выступаюць з дакладамі адказныя работнікі, якія ведаюць беларускую мову. Вось няхай бы гэтыя даклады рабіліся па-беларуску. Гэта задавала б тон і паказвала павагу з боку кіраўніцтва рэспублікі. Добры прыклад пяройдзе ў вобласьць, а затым і ў раён".

На маю думку, вельмі слушная прапанова. Некаторыя вертыкальныя начальнікі ставяцца да беларускай мовы грэбліва, пагардліва. А між тым нават у новай, значна зьбедненай рэдакцыі Закона аб мовах, прынятай у 1998 г. ёсьць артыкул нумар чатыры, у якім запісана: кіраўнікі, іншыя работнікі дзяржаўных органаў павінны валодаць беларускай і расейскай мовамі ў аб'ёме, неабходным для выкананьня імі сваіх службовых абавязкаў.

У слушнасьці Вашай прапановы, дзядзька Якуб, я пераканаўся на ўласным вопыце. Сёлетняй вясною ў Менску праходзіла Міжнародная канфэрэнцыя па прапагандзе прадуктаў пчалярства ды апітэрапіі. Запрасілі мяне – як пчаляра і пісьменьніка. Дарэчы, і пісьменнікам, і пчаляром я стаў не бяз Вашага ўплыву. Я сказаў арганізатарам, што буду гаварыць па-беларуску. Мне запярэчылі, маўляў, рабочая мова – расейская, прыедуць госьці з Масквы, Варшавы, Кіева, Вільнюса. Але я не пагадзіўся: мы – гаспадары, калі не прагучыць беларуская мова, нам будзе сорамна. Гаварыў я пра багатыя традыцыі пчалярства на Беларусі, што ў Статуце Вялікага Княства Літоўскага 1588 г. - першым Зводзе законаў Эўропы, шмат запісаў у абарону бортніцтва. Расказаў пра часопіс "Беларуская борць", які выдавала ў Вільні ў 30-я гады Зоська Верас (Вы ж яе добра ведалі). Якая мова ейнага часопіса! Яна піша: не вулей, а каранік, не меданосныя, а мёдадайныя расьліны. Сапраўды, расьліны не носяць мёд, а даюць яго. Сказаў я і пра свае спосабы лекавання мёдам, прапалісам. Узнагародай былі дружныя воплескі прысутных. І гасьцей – тасама.

Трэба, каб наша мова гучала ўсюды. І любую думку можна выказаць ёю. Таму бывае крыўдна, што нашы навукоўцы саромеюцца гаварыць пабеларуску на сымпозіюмах, у дыскусіях. На пачатку ліпеня 2002 г. у Доме літаратара адбывалася Міжнародная канфэрэнцыя "Разнастайнасьць моваў і культураў у кантэксце глябалізацыі". Зь цікавым зьместоўным дакладам выступіў старшыня Савета Рэспублікі акадэмік Аляксандр Вайтовіч. І гаварыў па-беларуску, хто не разумеў, той слухаў пераклад на ангельскую або расейскую мовы. А вось на сэкцыях нашы мовазнаўцы ўсе імкнуліся выступаць па-расейску, маўляў, каб лепей іх зразумелі. Тады падняўся прафесар Рыгор Піўтарак з Украіны: "Дазвольце мне гаварыць па-беларуску". І выступіў на выдатнай беларускай мове.

А на Славянскім базары ў Віцебску, дзе гэтак скупа гучыць родная мова, пасол Украіны вітаў усіх па-беларуску. Суседзі даюць нам добры прыклад, а да нас ніяк не даходзіць. Таму і папікаюць часам, як на Сымпозіюме ў Менску, прафэсар Македонскага ўнівэрсытэта Чэда Цветаноўскі. Ён згадаў, як прымаў экзамены ў студэнта сэрба. Той адказваў на сэрбскай мове. "Ты гэткі здольны. Гэтак глыбока ведаеш прадмет. Чаму ж ты за два гады не вывучыў македонскую мову? – А навошта? – зьдзівіўся студэнт. – Калі я апынуся ў кампаніі дзесяці македонцаў, яны ўсе пачынаюць гаварыць па-сербску. Нешта падобнае адбываецца ў вас на Беларусі".

Уразіў выступ члена эстонскага пралямэнта Аймара Алтасара " Аб ролі дзяржавы ў разьвіцці культуры і мовы Эстоніі". Якую ўвагу надае кіраўніцтва гэтай невялікай дзяржавы разьвіцьцю мовы, культуры! Асабліва зьдзівіла мяне, што Эстонская энцыклапедыя мае наклад 220 000 асобнікаў. І гэта на мільён эстонцаў! На пяць чалавек – том. Наша БелСЭ мела 25 000 наклад. А новае 18-томнае выданьне энцыклапедыі сабрала ўсяго 10 000 на 10 мільёнаў насельніцтва. Менавіта насельніцтва. Бо ў нас адна кніга на тысячу чалавек.

Часам дзіву даесься, як мы не паважаем сябе, не шануем беларускую мову, не цікавімся сваімі каранямі, гісторыяй роднага краю. А як ня ўмеем паважаць сябе, то й нас не паважаюць. Памятаю, як скрушна было на душы, калі чакаў самалёта ў парыжскім аэрапорце імя Шарля дэ Голя. Вялізнымі літарамі было напісана: украінскія авіялініі, Літоўскія авіялініі. А беларускіх няма. Таму і давялося мне вяртацца з Амэрыкі праз Вільнюс, колішнюю Вільню, нашу культурную сталіцу. Вы гэтак хораша напісалі пра гэты горад у паэме "Новая зямля". Раздзел "Дзядзька ў Вільні" памятаецца са школьных гадоў. Потым жыцьцё адвучвала ад усяго роднага, але засвоенае ў маленстве застаецца назаўсёды. А раздзел "Падгляд пчол!" Бацька мой пчалярствам не займаўся, а я стаў пчаляром. Зацікавілі Вы, навучылі жончыны бацькі, якія былі заўзятымі пчалярамі. Шкада, дзеці нашы і ўнукі цяпер мала завучваюць вершаў на памяць. І чытаюць мала. Ну, на гэта ёсьць шмат прычын.

Дык вось, у Амэрыцы я быў у гасьцях. Жыве там шмат беларусаў, людзі сталага веку бяз сьлёз ня могуць узгадаць Радзіму, іхнія дзеці, унукі гэткага пачуцьця ня маюць. І мову матчыну слаба ведаюць.

Мой ліст да Вас, дарагі дзядзька Якуб, гэта – споведзь былога ман*курта. І* хоць любіў чытаць Вашы творы ў школьныя гады, а першыя апавяданьні надрукаваў на расейскай мове, першыя сур'ёзныя нарысы – пра беларускі мёд, пра нашы сады, пра бульбу надрукаваў у "Нёмане" па-расейску. І у вясковай сямігодцы родную мову выкладалі кепска, а ў Магілёўскім культасьветвучылішчы, на журфаку БДУ сьвядома адвучвалі ад яе. Тады я нічога не разумеў, лічыў, што так і трэба. Менавіта ў Эстоніі – служыў у Таліне матросам, я адчуў сябе беларусам, але шлях да Беларусі быў доўгі і пакручасты. Толькі на 33-м годзе жыцьця надрукаваў я першыя апавяданьні на роднай мове пад псеўданімам Леанід Левановіч. Дарэчы, дапамог выбраць псеўданім выдатны пісьменьнік Іван Мележ. І таму мне было вельмі прыемна, калі ў 1999 г. мая кніга "Ларыса, альбо Прыгоды аўтамабілістa" атрымала Літаратурную прэмію Мележа.

Амаль паўстагодзьдзя прамінула з таго часу, калі Вы горача абаранялі нашу мову на партыйным пленуме. Няма ўжо КПСС, развалiўся Савецкі Саюз, Масква, здаецца, не дыктуе, што і як нам рабіць, але становішча беларускай мовы не палепшылася. Адраджэньне, якое пачалося ў 90-я гады, мякка кажучы, прыпынілася. І глябалізацыя тут не вінавата. Ніл Гілевіч на гэты конт выказваецца больш катэгарычна: "Сёньня найвялікшая пагроза для нас, беларусаў, для нашай этнакультурнай самабытнасьці, для нашай мовы – не глябалізацыя, а глябальная, усеахопная русіфікацыя, мэта якой – канчаткова асіміляваць 10-мільённы славянскі народ".

Нельга не пагадзіцца з гэтай высновай. Русіфікацыя адчуваецца на кожным кроку. Прачнуўся беларус, уключыў беларускае радыё – рабі зарадку на расейскай мове. Чаму? Колькі гадоў таму перадача гучала па-беларуску. Уключыў першы канал БТ – большасьць перадач на расейскай мове. На канале "Лад" – тое самае. Лічаныя перадачы :"Гаспадар", "Тэлебарометр" і кароткія навіны ідуць на роднай мове. Астатні час займаюць дэбільныя серыялы на чужой мове. А ў 2002-м годзе да Вашага і Купалавага юбілею адмянілі экзамен па беларускай мове – свайго роду падарунак. А зь верасня 2006 гісторыю Беларусі выкладаюць па-расейску. Таксама – падарунак.

Набыў нядаўна для ўнука Вашу аповесьць "Дрыгва" і апавяданьні. Кніжку хораша выпусціла ў сьвет выдавецтва "Юнацтва" На жаль, ужо былое, сёлета яго сьпляжылі. А дакладней – аб'ядналі з "Мастацкай літаратурай". Значыць, кніг на роднай мове будзе яшчэ меней. Дык вось, кажу ўнуку: "Пачытай. Вельмі цікавая кніжка". А ён у адказ: "Беларускіх на лета не задавалі. А вось расейскіх цэлы сьпіс". У тым сьпісе каля пятнаццаці назваў, больш дзесятка кніг замежных пісьменьнікаў. І чытаць іх трэба ў перакладзе на расейскую мову. Сорамна мне зрабілася, дзядзька Якуб, мушу прасіць у Вас прабачэньня. Сорамна за тых тэле- і радыёжурналістаў, якія грэбліва ставяцца да роднай мовы. Тэлефануе вясковая кабета на перадачу "Спявай, душа народная", пытаецца, ці можна прасьпяваць песьню. "Пожалуйста. Что Вы нам споёте?" Хіба ня зьдзек з душы народнай? Сорамна за тых эстрадных "дзіў". За тых заслужаных і народных артыстаў, якія дзясяткі гадоў клянуцца ў любові да Беларусі, а двух слоў па-беларуску зьвязаць ня могуць.

Неяк выступаў па радыё народны мастак Беларусі Уладзімір Стальмашонак. Той самы, што напісаў Ваш партрэт. На маю думку, ці не самы лепшы. Дык вось, Стальмашонак прапанаваў: сёлета з павагі да Купалы і Коласа нам усім трэба гаварыць па-беларуску. Але голас ягоны ня быў пачуты. Даруйце нам, Канстанцін Міхайлавіч, гэтую абыякавасьць і лянoту. Даруйце, што ў сталіцы Беларусі рэдка гучыць беларуская мова. Загналі яе родную ў падзямельле - у мэтро. Я нават апавяданьне напісаў "Мэтро". Герой яго адбыхаў дзесятак гадоў на Калыме за любоў да Беларусі. Цудам выжыў, вярнуўся ў Менск і штодня возіць малога ўнука ў мэтро, каб той пачуў там родную мову. І ён вельмі ўзрадаваўся, калі аднойчы ўнук гучна ўсклікнуў: "Дзеда! Наступны прыпынак наш! Плошча Якуба Коласа".

2007 год нарэшце аб'явілі годам Купалы і Коласа, годам беларускай мовы і культуры.

На пачатку ліста я пісаў пра сваю вёску Клеявічы на беразе Бесядзі. На вялікі жаль, вёскі ўжо няма – Чарнобыль зьнішчыў яе, людзей адсялілі. Цяпер яны, бы птушкі, зьлятаюцца з усяго сьвету толькі на Радаўніцу, на магілкі бацькоў і дзядоў. Дарэчы, адно на помніках маім бацькам надпісы на роднай мове. Царква і касьцёл таксама прычыніліся да таго, што беларусы не лічаць сваю мову вартай, каб рабіць на ёй надпісы на помніках.

Чарнобыль – вялікая бяда для Беларусі, сьмертаносным чорным крылом ахінуў чвэрць тэрыторыі. Але яшчэ страшней духоўны Чарнобыль, пагалоўнае п'янства: п'юць і пахмяляюцца начальнікі і падначаленыя, рабочыя і сяляне, мужчыны і жанчыны. Вёска сучасная зусім абязьлюдзела, мужыкоў выкасіла гарэлка, песьню пачуеш рэдка. Затое брудная лаянка на кожным кроку. З экранаў тэлевізараў ліецца кроў, бруд, гвалт. А яшчэ - непісьменнасьць. Слушна піша журналістка Алена Ляўковіч у "Звяздзе": "Пісьменны чалавек у Беларусі нідзе не будзе пачуваць сябе спакойна, бо паўсюль, калі не ўбачыць, дык пачуе зьнявагу мовы, якую мы ўсё яшчэ (цяпер ужо – хутчэй па звычцы) называем роднай, але якая застаецца дзяржаўнай. Значыць, патрабуе паважлівых адносінаў, гэтак як і іншыя сымбалі дзяржавы – сьцяг, герб, гімн".

Дарэчы, у прамове на чэрвеньскім пленуме ЦК КПБ Вы зьедліва пакрытыкавалі тагачасную "Звязду", згадаўшы выказваньне Льва Талстога, што за кожнае няправільна ўжытае слова ён сек бы пісьменьнікаў розгамі, што калі "дастасаваць гэтае мудрае правіла да работнікаў "Звязды", дык ім давялося б чухацца пасля выхаду кожнага нумару газэты. Бо ўсім вядома: хто не рупіцца, у таго скура лупіцца".

У нашы дні газэта з небеларускаю назваю стала сапраўдным флагманам беларускасьці. Нядаўна яна надрукавала ў двух нумарах грунтоўны артыкул акадэміка Генадзя Лыча "Глябалізацыя – мова – суверынітэт – дабрабыт". Аўтар слушна зазначае, што трэба давесьці да звычайнага абывацеля такую простую і зразумелую думку, што жаданага матэрыяльнага дабрабыту яму ніколі не зьведаць, калі не адбудзецца цесная яднаньня беларускага народа, а гэтае яднаньне павінна адбывацца "толькі на аснове роднай мовы карэннай нацыі, якая складае пераважную большасьць насельніцтва краіны, гэта значыць, на аснове беларускай мовы". І гэта піша не мовазнаўца, а эканаміст.

Нядаўна мяне вельмі ўсхваляваў артыкул славутага вучонага-геоляга, члена Расейскай і нашай акадэмій Радзіма Гарэцкага "Моўная трагедыя беларускага народа", надрукаваны ў газэце "Народная Воля". Эпіграфам гэтай газеты – Вашы радкі: "На прастор. На шырокі разлог выхадзі, мой народ, грамадою..." Р. Гарэцкі піша: "Многія проста баяцца размаўляць па-беларуску, каб не падумалі, што яны нацыяналісты ці знаходзяцца ў апазыцыі". Далей аўтар даводзіць, што беларуская мова не запатрабаваная дзяржавай".

"Пакуль будзе такое становішча, цяжка разьлічваць на адраджэньне мовы, а разам зь ёй – на ўздым эканомікі, вытворчасьці, культуры, навукі, на стварэньне квітнеючай, багатай краіны. Такую дзяржаву могуць пабудаваць толькі сапраўдныя патрыёты, а бяз роднай мовы яны не зьявяцца".

Як бачыце, дарагі дзядзька Якуб, лепшыя сыны і дочкі народа не маўчаць. Хачу прыгадаць тут, што Вы прычыніліся да вяртаньня ў Беларусь сусьветна вядомага вучонага Гаўрылы Гарэцкага. На вечарыне ў Доме літаратара, прысьвечанай 100-годзьдзю з дня народзінаў вучонага, Ваш малодшы сын Міхась чытаў ліст, які Вы даслалі ў свой час у высокую інстанцыю. Ваш сын вельмі падобны на Вас, хораша гаварыў на роднай мове, хоць ён і не філёляг, а доктар тэхнічных навук. На маю думку, адукаваны беларус ня можа лічыць сябе інтэлігентам, калі ня ведае роднай мовы.

Шаноўны Канстанцін Міхайлавіч! Разумею, мой ліст зацягваецца. А яшчэ так многа хочацца сказаць. Вось перачытаў нядаўна "Новую зямлю", шыкоўна выдадзеную на трох мовах - беларускай, расейскай і польскай. Гэта Вам сапраўдны падарунак, і нібы напіўся крынічнай вады. А Вашыя "Казкі жыцьця"! Колькі ў іх мудрасьці! А колькі гумару ў Вашых творах! Некаторыя выслоўі даўно сталі афарызмамі. Да прыкладу: "Увесь час варушымся, зьбіраем, канца ж патрэбам тым ня маем". Або: "А нашча чарачку кульнуць – усё адно, што ў рай зірнуць". Ці вось гэта: "Ды чорт зь ёй, з той сівізной, хай лысіна сьвеціць, як блін". Гэта акурат пра мяне.

Абяцаўся напісаць і пра пісьменьніцкія справы, але паведамляць Вам пра нашыя спрэчкі, зваdкі зьнікла жаданьне, ды я й не ведаю дакладна, адкуль ногі растуць. У горадзе бываю рэдка, жыву ў лясной вёсачцы, у вокны маёй хаціны глядзяцца сосны. І служу я толькі Слову і пакланяюся яго Вялікасьці Лесу. Сею жыта, грэчку, фацэлію, кашу сена, сяку дровы. Ведаю, што Вы да канца сваіх дзён любілі сялянскую працу. Прызнаюся Вам, як на духу, калі пасьля шалёнага Нью-Ёрка зайшоў у свой лес, уздыхнуў на поўныя грудзі – адчуў сябе шчасьлівым чалавекам.

Мусіць, трэба разьвітвацца, бо ліст мой ужо дужа доўгі. Скажу на разьвітаньне, дарагі дзядзька Якуб, што беларускі народ Вас помніць і любіць. І будзе любіць вечна. Хай Вам сьняцца сны пра Беларусь!

*Шчыра Ваш*
*Леанід ЛЕВАНОВІЧ*

# "Беларускае кола" перамагае



У пачатку сьнежня 2013 году пяцёра школьнікаў з Наваградку разам з сваёй настаўніцай Валянцінай Быстрык наведалі Бэльгію. Гэтае падарожжа было прызам за выйграны імі конкурс "Што ты ведаеш пра Эўропу?". Конкурс ладзіцца ўжо дзясяты год, яго галоўны арганізатар – Клюб эўрапейскіх настаўнікаў, партнэрамі якога зьяўляюцца некалькі грамадзкіх арганізацыяў Беларусі, Бэльгіі, Чэхіі, Швэцыі... Фундатарам галоўнага прызу конкурсу-2013 быў "Офіс за дэмакратычную Беларусь", што месьціцца ў Брусэлі.

Навагардцы ўжо некалькі разоў удзельнічалі ў гэтым конкурсе, нават аднойчы былі яго пераможцамі, але гэтым разам перамога была асабліва жаданай і прыемнай. 10-годзьдзе конкурсу супадала з 10-годзьдзем клюбу "Беларускае кола", на базе якога склалася каманда.

Ніжэй падаем аповед Валянціны Быстрык, настаўніцы ангельскай мовы, стваральніцы й нязьменнай кіраўнічкі клюбу "Беларускае кола" ў Наваградку.

10 гадоў, мяркую, маюць права называцца гісторыяй. Прынамсі, у маштабе нашага жыцьця. Пачалася наша гісторыя зь цікавай і шматабяцальнай падзеі – летняй школы для настаўнікаў ангельскай мовы ў Наваградку, якую ладзіла Культурна-адукацыйная фундацыя Орса-Рамана (ЗША). На працягу тыдня 25 настаўнікаў з усёй Беларусі знаёміліся з сучаснымі прыёмамі выкладаньня, атрымалі шмат цікавых мэтадычных распрацовак, да таго ж мелі выключную магчымасьць: тыдзень практыкавацца ў мове. Хачу зазначыць, што 25 настаўнікаў – гэта трацiна ўсіх выкладчыкаў ангельскай мовы Навагрудзкага раёну. То бок, за тры гады (такі быў праект) цэлы раён меў бы магчымасьць падвысіць кваліфікацыю настаўнікаў без капейкі дзяржаўных грошай. Бо ўсе траты несла вышэйзгаданая фундацыя. Alas, my friend, як казаў клясык! Раённы аддзел адукацыі праігнараваў запрашэньне паўдзельнічаць або хоць бы наведаць тую летнюю школу. Ня кажучы аб тым, што мы ня мелі магчымасьці працаваць у кампутарных клясах навагрудзкіх школаў, а наймалі для занятку інтэрнэт-кавярню, і сп. Рык ( ён знаёміў нас з кампутарнымі тэхналёгіямі ў выкладаньні ангельскай) вымушаны быў бегаць на пошту, каб пераслаць нейкія працы ці атрымаць патрэбную інфармацыю, зьдзіўляючы паштовых служачых віртуозным валоданьнем кампутарам. Цяжка растлумачыць чаму, але на наступны год летняя школа не змагла працаваць у Беларусі. Выкладчыкам проста не далі візаў. Сумна, бо вучні, іх бацькі ды, зразумела, настаўнікі страцілі добры шанец. Хто выйграў, зразумець няпроста...

Спадарыня Ала Орса-Рамана, кіраўнічка Культурна-адукацыйнай фундацыі, нарадзілася ў Навагрудку. Яе бацькі – вядомыя дзеячы народнай асьветы Навагрудчыны ў 1930-я гады. Бацька, доктар Аляксандар Орса, і маці – Натальля Орса (да шлюбу – Сазановіч) працавалі настаўнікамі ў Навагрудзкай беларускай гімназіі. Вышэйшую адукацыю яны здабылі ў Празе. Сама спадарыня Ала – прафэсар хіміі Нью-Ёркскага гарадзкога ўнівэрсытэту. Сустрэча з такім чалавекам – гэта падарунак лёсу, бо не праходзіць бязь сьледу. У маім жыцьці яна адкрыла новую старонку. На той час я прапрацавала ў школе каля 30 гадоў, мела сям'ю, выхавала трох сыноў. І ў мяне была Радзіма як дадзенасьць. А тут я сустракаю чалавека, для якога Радзіма – гэта цёплы шчымлівы ўспамін, гэта мара, гэта нясьцерпнае жаданьне бачыць яе годнай і пасьпяховай, на пачэсным месцы сярод іншых народаў, бачыць яе беларускай. Зь нядоўгіх расповядаў узьніклі карціны жыцьця беларускай суполкі ў чужой краіне, якая паступова мусіла стаць другой Радзімай. Мы даведаліся, што кожная амэрыканская беларуска мае дома нацыянальны строй, зроблены ўласнымі рукамі; што зь беларускімі танцамі й песьнямі яны аб'ехалі мала ня ўсю Паўночную Амэрыку. Бо ўпэўненыя: ёсьць у нас што паказаць і чым ганарыцца. А калі на наша "Несвіж" яна са смуткам заўважыла: "А мы казалі "Нясьвіж", мне ад сораму й жалю хацелася заплакаць.

Вось уласна тады й нарадзілася ідэя арганізаваць у школе клюб, які аб'яднаў бы й настаўнікаў, і вучняў, каго словы " Беларусь" і "Радзіма" маглі б натхніць на дзеяньні. Накірункі й формы працы ўзьнікалі й зьмяняліся, але галоўная думка: нельга любіць тое, чаго не ведаеш – заставалася. Назву прапанаваў дырэктар школы, між іншага. Прыжылася адразу. І вось ужо дзесяць гадоў мы сустракаемся й гаворым аб людзях Беларусі, аб гістарычных падзеях слаўных, але ня вельмі вядомых, падарожнічаем і знаёмімся з нашымі сучасьнікамі, якім ёсьць што сказаць пра жыцьцё. Глядзім на Беларусь. Летам выбіраемся нават і ў больш далёкія краіны. Шкада, праўда, што ня многія вучні й студэнты могуць гэта сабе дазволіць. Чытаем і дыскутуем наконт добрых кніжак. Нагадваем нашым навагрудцам пра слаўнага земляка Адама Міцкевіча (у школе і ў музэі ставілі спэктаклі й ладзілі канцэрты). Адзначалі разам беларускія сьвяты. У нас сёньня ёсьць хоць і невялікае, але цалкам беларускамоўнае асяродзьдзе.

Цяпер "Беларускім колам" называецца ня толькі наш клюб, але й каманда, якая прымае ўдзел у конкурсе эўраклюбаў "Што я ведаю пра Еўропу".

Узнагародай за першае месца ў сёлетнім (2013 год – Рэд.) конкурсе стала паездка ў Бэльгію. Той факт, што вучні змаглі паглядзець на такую цікавую краіну, немагчыма пераацаніць. Краіна прыгожая, дагледжаная, моцна адрозная ад нашай.

Зразумела, турысцкія атракцыі, якіх усе чакалі, не падманулі. Мы пабачылі шмат прыгожага. Пакаштавалі нешта смачнае. Але найперш хочацца сказаць вось пра што. Сучасная школа мае на мэце ня толькі "ўзбраеньне" ведамі, але й фармаваньне кампэтэнцыяў. Дык нядрэнна з гэтым у нашых навагрудзкіх выхаванцаў! Квіток у мэтро купіць могуць, у аэрапорце зарэгіструюцца, на пасадку трапяць, у гатэль паселяцца. У музэі аўдыёгідам карыстаюцца. І гэта безь якой-колечы інфармацыі на сваёй мове! Пры пакупцы сувэніраў спакойна карыстаюцца напрацоўкамі з тэмы "Shopping". У настаўніцы душа радуецца слухаць знаёмыя дыялёгі ў дзеяньні. І са сьцюардэсай, і з энэргічным суседам у самалёце размову падтрымаюць. Цяпер ужо й пра памеры порцыяў у кавярнях Бэльгіі ведаюць дакладна.

Мне здаецца, толькі праз такі досьвед можна адчуць, што сьвет сёньня сапраўды становіцца адной вялікай вёскай. Пачынаеш разумець, што ўсе, па вялікім рахунку, тут свае. А ты павінен быць асобай, годнай і цікавай для іншых, выразна ўсьведамляць, хто ты ёсьць і адкуль. Ды адрозьніваць, што ў гэтым сьвеце каштоўнае, а што – так, на будні дзень.

Думаю, мы заўважна пасталелі за гэтыя некалькі дзён у Бэльгіі, набылі пачуцьцё самапавагі.

І мы шчыра ўдзячныя ўсім, хто зрабіў такую паездку магчымай, і тым, хто калісьці даў той першы штуршок нашага руху да сябе, да сваёй ідэнтычнасьці.

*На здымку: сябры навагрудзкага "Беларускага кола" разам з сваёй настаўніцай Валянцінай Быстрык ля будынку Эўрапейскай камісіі ў Брусэлі.*

# Аднаўленьне беларускага жыцьця ў Чыкага

У гэты адзін з найбуйнейшых гарадоў Амэрыкі беларускія эмігранты ехалі здаўна. Пасьля другой усясьветнай вайны там асталявалася значная па колькасьці група беларусаў, якія прыехалі за акіян з лягераў у Нямеччыне. Уцекачы ад саветаў былі ў бальшыні сьвядомымі, патрыятычнымі беларусамі. Яны здолелі наладзіць там беларускае жыцьцё. Згадаем толькі сем'і Жызьнеўскіх, Рамукоў.

Але старэйшае пакаленьне паволі адыходзіла, пусьцела царква сьв. Юрыя, згасала нацыянальна-культурнае жыцьцё. Здавалася, што яно зусім зьнікне. Але новая сучасная хваля эміграцыі зь Беларусі прынесла ў Чыкага новыя надзеі і новыя беларускія сілы. Сп. Жанна Чарняўская здолела аб'яднаць супродзічаў, зацікавіць іх беларускімі справамі і так паціху пачалі ладзіцца сустрэчы, імпрэзы. Стварыліся ўмовы і для арганізацыйнага аб'яднаньня. 3 лістапада мінулага году там адбыўся установчы сход па стварэньні Гуртка БАЗА, на якім прысутнічаў сябра Галоўнай управы БАЗА сп. В. Станкевіч. Старшынёю Гуртка была абраная сп. Жанна Чарняўская, скарбнікам Марыя Сухоцкая, сакратаром Валянціна Вішнеўская. 9 лютага сёлета на паседжаньні Галоўнай управы БАЗА гэтая новая структура была прынятая ў склад БАЗА.

Віншуем чыкагскіх беларусаў з гэтай падзеяю і жадаем ім посьпеху на шляху ўтрыманьня беларускага жыцьця ў Амэрыцы. Дзякуем ім за іх высокую сьвядомасьць і патрыятызм!

*Ганна Сурмач*

# Зварот да нацыі

Масква прыслала ў Беларусь новага экзарха – Паўла (Панамарова), былога расейскага Мітрапаліта Разанскага і Міхайлаўскага, праігнараваўшы цалкам інтарэсы народа, Беларускай праваслаўнай Царквы і нават кіраўніцтва Рэспублікі Беларусь, якія хацелі мець свайго мітрапаліта зь беларускага кліру.

Напэўна справа пра прызначэньне новага галоўнага русіфікатара мітрапаліта Паўла ішла адным пакетам зь фінансавым крэдытам з Расеі. Экзарх Павал не зьяўляецца грамадзянінам Беларусі і не валодае нацыянальнай мовай, што ёсьць грубым парушэньнем беларускага заканадаўства, але чаго ня зробіш дзеля ўратаваньня ўлады.

Выглядае зьдзекам зь беларускага народу – ахвяры Чарнобыльскай атамнай катастрофы – прызначэньне галоўным духоўным акармляльнікам для праваслаўных беларусаў саноўнага сьвятара, які адзначыўся наступным цынічным выказваньнем: “В России сейчас существует огромное количество средств массового уничтожения, у нас есть и атомное, и бактериологическое оружие. Когда наш народ будут загонять в угол, нам ничего не останется, как открыть краник чернобыльский».

Абурае, што высокі царкоўны ярарх, які павінен займацца духоўным лекаваньнем і ратаваць душы людскія праз хрысьціянскія дагматы любві і ўсёдараваньня грахоў, прыбягае да аргументаў зброі і сілы.

Насьцярожвае і тое, што высокі духоўны ярарх выказваецца не як духоўная асоба, а як палітык, і гэтая відавочная тэндэнцыя на зрошчваньне царквы і дзяржавы нівелюе статус царквы як духоўнага інстытута ў грамадзтве і ператтварае яе ў палітаддзел дзяржаўнага апарату.

Цяпер мы мо й пазьбегнем дэфолту, але за кошт духоўнага рабства, дэнацыяналізацыі Беларусі-Літвы і страты нашага сувэрэнітэту і нацыянальнай адметнасьці – мовы, культуры, сапраўднай гісторыі і сваёй царкоўнай архітэктуры.

Расейская праваслаўная царква Маскоўскага Патрыярхату была і застаецца імпэрска-шавіністычнай і антыбеларускай па сваёй сутнасьці. Яна ня мае ні маральнага, ні юрыдычнага, ні кананічнага права дзейнічаць на тэрыторыі Беларусі-Літвы.

Стан РПЦ далёкі ад ідэалу (пра гэта сьведчаць, напрыклад, выказваньні прафесара Маскоўскай духоўнай акадэміі пратадыякана Андрэя Кураева, сант-пецярбурскага рэжысэра-журналіста Аляксандра Няўзорава і іншых, факты карупцыі ў РПЦ, гомасексуалізму ў манастырах, акадэміях і семінарыях, зьвышраскоша ва ўбранстве і побыце высокіх ярархаў і сьвятароў). І ўсё гэта выклікае адток ад расейскага праваслаўя вернікаў, якія пераходзяць у іншыя канфесіі.

У храмах падчас набажэнстваў і пры правядзеньні таямніцаў хросту, споведзі, пахаваньня, у нядзельнай школцы не гучыць беларуская мова – і гэта сімптомы духоўнай катастрофы нацыі.

РПЦ дзейнічае ў Беларусі-Ліцьве, як рабілі гэта расейцы з 1793 года паводле ўказаньняў да Ўказу Кацярыны II па “Новым землям Литовским”: “...Великое Княжество Литовское впредь именовать только Белой Русью, а народ её белорусами, чем на века привяжем её к России. Замирить Белую Русь силой невозможно. Эту миссию мы возложим на русского чиновника, русского учителя и русского попа. Именно они отнимут у белорусов не только их язык, но и саму память про самих себя...».

Мы, беларусы-ліцьвіны, катэгарычна пратэстуем супраць прызначэньня расейскага мітрапаліта галавою Беларускай Праваслаўнай Царквы без уліку інтарэсаў беларускай нацыі, бо такое чарговае навязваньне высокага ярарха з РПЦ МП пярэчыць адносінам хрысьціянскай любові, брацтва, роўнасьці, павагі і ўзаемадаверу двух суседніх народаў Беларусі-Літвы і Расеі.

*Подпісы прадстаўнікоў беларускай інтэлігенцыі*

# Каляндар памятных датаў на люты і сакавік 2014 году

## Люты

**3 лютага** – 50 гадоў таму, у 1964 годзе, памёр Станіслаў Станкевіч, паэт, кнігавыдавец

**4 лютага** – 120 гадоў таму, у 1894 годзе, памёр Адам Гурыновіч, паэт

**4 лютага** – 85 гадоў таму, у 1929 годзе, нарадзіўся Лявон Баразна, мастак

**4 лютага** – 25 гадоў таму, у 1989 годзе, у Вільні адбыўся устаноўчы сход Таварыства беларускай культуры

**6 лютага** – 100 гадоў таму, у 1914 годзе, нарадзіўся Аркадзь Куляшоў, паэт

**8 лютага** – 100 гадоў таму, у 1914 годзе, нарадзіўся Валянцін Таўлай, паэт, дзеяч заходне-беларускага руху

**13 лютага** – 40 гадоў таму, у 1974 годзе, памерла Паўліна Мядзёлка, актрыса, дзеяч культуры

**13 лютага** – 30 гадоў таму, у 1984 годзе, памёр у Інаўроцлаве Язэп Найдзюк, дзеяч заходне-беларускага нацыянальнага руху, гісторык

**14 лютага** – 100 гадоў таму, у 1914 годзе, нарадзіўся Павал Масьленьнікаў, мастак

**14 лютага** – 90 гадоў таму, у 1924 годзе, у Вільні выйшаў першы нумар газэты “Голас Беларуса” , рэдактар Мікола Шыла

**14 лютага** – 25 гадоў таму, у 1989 годзе, у Канадзе памёр Вінцэнт Жук-Грышкевіч, дзеяч эміграцыі, старшыня Рады БНР (1970-1982)

**19 лютага** – 35 гадоў таму, у 1979 годзе, памёр Янка Геніюш, грамадзкі дзеяч, лекар

**21 лютага** - 40 гадоў таму, у 1974 годзе, памёр Лявон Савёнак, пісьменьнік, журналіст, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне і ЗША

**22 лютага** – 125 гадоў таму, у 1889 годзе, нарадзіўся Мікола Байкоў, мова- і літаратуразнавец

**22 лютага** –25 гадоў таму, у 1989 годзе, у Беластоку заснавана Беларускае Аб'яднаньне студэнтаў (БАС)

**23 лютага** – 70 гадоў таму, у 1944 годзе, была створана Беларуская Краёвая Абарона (БКА)

**25 лютага** – 105 гадоў таму, у 1909 годзе, нарадзіўся Сяргей Дарожны, пісьменьнік

**25 лютага** – 55 гадоў таму, у 1959 годзе, памёр Клаўдзій Дуж-Душэўскі, палітычны дзеяч

**25 лютага** – 30 гадоў таму, у 1984 годзе, памёр Язэп Пітушка, вайсковец, дзеяч эміграцыі ў Канадзе

**27 лютага** – 95 гадоў таму, у 1919 годзе, створаны ўрад Літоўска-Беларускай ССР

## Сакавік

**2 сакавіка** – 20 гадоў таму, у 1994 годзе, Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь прагаласаваў за прэзідэнцкую форму кіраваньня краінаю, парляменцкая апазыцыя байкатавала галасаваньне

**3 сакавіка** – 70 гадоў таму, у 1944 годзе, забіты Францішак Аляхновіч, нацыянальны дзеяч, драматург

**4 сакавіка** – 10 гадоў таму, у 2004 годзе, памёр Міхась Навумовіч, мастак, дзеяч эміграцыі ў Францыі

**8 сакавіка** – 25 гадоў таму, у 1989 годзе, памёр Мікола Ягоўдзік, вайсковец, дзеяч эміграцыі ў Бэльгіі

**9 сакавіка** – 200 гадоў таму, у 1814 годзе, нарадзіўся Тарас Шаўчэнка, украінскі пісьменьнік, заснавальнік новай украінскай літаратуры

**12 сакавіка** – 100 гадоў таму, у 1914 годзе, нарадзіўся Уладзімір Клішэвіч, паэт, дзеяч эміграцыі ў ЗША

**13 сакавіка** – 25 гадоў таму, у 1989 годзе, памёр Іван Касяк, грамадзкі дзеяч, гісторык, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне і ЗША

**14 сакавіка** – 60 гадоў таму, у 1954 годзе., памёр Людамір Рагоўскі, польскі і беларускі кампазітар і дырыжор

**15 сакавіка** – 20 гадоў таму, у 1994 годзе, на сесіі Вярхоўнага Савета 12-га склікання была прынята Канстытуцыя Рэспублікі Беларусь

**18 сакавіка** – 120 гадоў таму, у 1894 годзе, нарадзіўся Альбін Стэповіч, грамадзка-культурны дзеяч, кампазытар

**22 сакавіка** – 150 гадоў таму, у 1864 годзе, у Вільні быў павешаны Кастусь Каліноўскі, кіраўнік паўстаньня 1863 году

**24 сакавіка** – 220 гадоў таму, у 1794 годзе, пачалося паўстаньне пад кіраўніцтвам Тадэвуша Касьцюшкі

**25 сакавіка** – Дзень Волі

**25 сакавіка** – 15 гадоў таму, у 1999 годзе, у аўтакатастрофе загінуў Вячаслаў Чарнавіл, украінскі палітычны дзеяч

**25 сакавіка** – 10 гадоў таму, у 2004 годзе, памерла Валянціна Пашкевіч, дзеяч эміграцыі ў Канадзе, аўтар падручнікаў і ангельска-беларускага слоўніка

**26 сакавіка** – 10 гадоў таму, у 2004 годзе, памёр Янка Баран, дзеяч эміграцыі ў Канадзе

**27 сакавіка** – Міжнародны дзень тэатра

**27 сакавіка** – 115 гадоў таму, у 1909 годзе, нарадзіўся Валеры Маракоў, паэт

**27 сакавіка** – 35 гадоў таму, у 1979 годзе, памёр Рыгор Крушына, пісьменьнік, паэт, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне і ЗША

**31 сакавіка** – 45 гадоў таму, у 1969 годзе, памёр Мікола Шчаглоў, кампазытар, музычны і тэатральны дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне і ЗША

# Варштат па беларускай тэхніцы "нізанка" ў Таронтаўскай гільдыі вышывальніц



Гэты дзень надарыўся адметным. Адзін з тых, што не забываюцца.

Варштат па беларускай тэхніцы нізанка (працяг) ў маёй роднай Таронтаўскай гільдыі вышывальніц.

Не самая вялікая бяда, што гэта – другога студзеня :). Але падступства палягала ў тым, што надоечы па Таронта прайшоўся найбуйнейшы ледзяны дождж, што павыбіваў электрыку ўсяму гораду на некалькі дзён. У будынку, дзе звычайна адбываюцца зборкі Гільдыі, ляснуў бойлер, і цяпла, натуральна, не было. На двары -15. Так што вось вам карцінка: жанкі ў футрах, дохаўках, швэдарах сядзяць, утрапёна нешта шыюць, падбадзёрваючы кпінамі адна адну: "Вышывай шпарка! Хуценька! Варушыся! Чым жвавей – тым цяплей!"

А калі ўжо сур'ёзна... Мы ж чакалі на гэты варштат яшчэ зь вясны, як ён быў заплянаваны. І хто б мог сабе ўявіць, што (мала для мяне другога студзеня...) вываліцца зь нябеснага офісу такая перашкода нашай пачэснай справе. Але людзей надзіва прыйшло шмат. Пакуль зьбіраліся, адусюль чую нешта кшталту: "Го-о... не дачакаюся!"

Ды ладна... ) Ня так і страшна ўсё было.







Нават цудоўна! Будзе што ўспомніць.

Усю праграму мы выканалі (пакуль ня зьмерзлі канчаткова..:). Я зрабіла слайд-шоў, расказала, як, чаму і дзе выкарыстоўвалася нізанка з пракаветных часоў, падмацавала расповед фатаграфіямі, дэманструючы прыгажосьць і вялізную колькасьць узораў у гэтай тэхніцы. І абавязкава – для заахвочваньня – здымкі сучасных, нават мадэрновых, вырабаў, улучна з маімі собскімі дызайнамі (зрэшты, гэныя былі ў наяўнасьці). Тады раздалі брашуры з інструкцыямі і схемамі. На першы раз мы мелі зрабіць нескладаную па выкананьню закладку майго дызайна. Іка Якавіч, як заўсёды, як яна гэта ўмее цудоўна, па-настаўніцку, бы ў детсадочку, з тупаньнем нагамі, маханьнем пальцам для большай яснасьці, пачала з падрабязных тлумачэньняў, у якую дзюрку ўтыкнуць першую голку. І... работа пайшла. ... На гэтым месцы мушу шчыра падзячыць маёй сяброўцы Іцы, якая чарговы раз так шмат мне дапамагла: і начыньне (тканіну, ніткі) падрыхтавала, і тэкст мой ангельскі адрэдагавала.. Ня ведаю, што б безь яе рабіла наагул... :)

Напрыканцы пахваталі й апошнія брашуры са схемамі - "для сяброваk". То мы вырашылі для тых, хто адсутнічаў, і тых, хто дома сам не ўправіцца закончыць праект, працягнуць/паўтарыць варштат на нашым альтэрнатыўным паседжаньні праз два тыдні.

# "Жаніцьба Цярэшкі" ў Іркуцку



*Каціліся кола з клеці,*
*А жывіце добра дзеці!*
*А жывіце, не сварыцеся,*
*У загрудкі не вадзіцеся!*

28 сьнежня 2013 г. У Іркуцкім Гісторыка-мемарыяльным комплексе беларусы правялі традыцыйнае беларускае сьвята "Жаніцьба Цярэшкі". Гэта сьвята карыстаецца асаблівай папулярнасьцю сярод нашай беларускай моладзі. Юнакоў і дзяўчат прываблівае асаблівая эстэтыка дзеяньня і сардэчная атмасфэра. Забыцца пра штодзённыя клопаты і адчуць сваю ўласную асаблівасьць хочацца кожнаму з маладых людзей. У галовах круціцца думка: "Ён выбярэ мяне!", "Яна глядзіць толькі на мяне!"...

У драўлянай двухпавярховай будове – былой канюшні панскага двара сабралася каля 60 асобаў. Сярод іх былі дзеці і старэйшыя векам людзі. Усім было цікава: "Як складуцца пары? Як пакажуць сябе у танцах?"

Завадатары сьвята- Бацька і Матка – пажанілі 18 параў юнакоў і дзяўчат. А каб ім лягчэй падбіраць пары ансамблі "Крывічы" і "Званочкі" сьпявалі адпаведныя калядныя песьні. Астатнія прысутныя аглядалі ды абмяркоўвалі, ці дакладна ды адпаведна падабраныя пары.

Калі пары ўжо былі падабраныя, прыйшоў час Цярэшку танцаваць. Пачалося зь "Лявонісі", затым пайшлі "Верабей", "Полька задам", "Полька Агата", "Матлёт", "Падгорная", "Лысага", "Марынінскі кракавяк"... Такое выпрабаваньне вытрывалі ня ўсе пары, то адна, то другая часам прысаджваліся, каб перавесьці дух. Усе танцы былі парнымі, і ніхто партнёрамі не выменьваўся. Такім было правіла гэтага вечара. Сем патоў зышло за час танцаў. Распаранай моладзі хацелася хоць на хвільку прыпыніцца і адпачыць.

Нарэшце, танцы скончыліся. А што далей? А далей трэба аднавіць патрачаныя сілы і добра пад'есьці. Накрылі стол, чым багаты, тым і рады. А парадавацца было чым. Леанід Ільіч (ня Брэжнеў) са сваёй пасекі мёду прынёс, Сьвятаслаў Макараў хлеб сьпёк на заквасцы зь ільняным семем, мяса натушыў, Соня Кулікова дранікаў нагатавала, Сьвятлана Бастракова кашу з арэхамі і фруктамі прынесла. Было і сала, каўбасы і, вядома, бульбачка.

Шкада толькі, часу было малавата на пасядзелкі за такім багатым пачастункам. Але, так заўсёды, як толькі зьбярэмся, то разыходзіцца не хочацца.

*Воля Галанова.*



# Віншаваньне



1 лютага адсьвяткавала свой слаўны юбілей сп-ня Паўліна Сурвілла – дырэктарка Цэнтра беларускіх дасьледаваньняў у Канзасе, прафэсарка Вартбургскага каледжу, дасьледчыца сучаснай музычнай культуры Беларусі, прадаўжальніца слаўнага роду Сурвіллаў.

Ад імя Галоўнай управы Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня сардэчна віншуем сп-ню Паўліну са сьвятам і выказваем ёй самыя шчырыя пажаданьні на будучыню – працягваць традыцыі свайго роду, захоўваць адданасьць беларускай справе і плённа працаваць на карысьць нашай Бацькаўшчыны, а таксама добрага здароўя, шчасьлівага асабістага жыцьця, нязгаснай маладосьці на доўгія гады.

# Памёр дзеяч эміграцыі Мікола Прускі

У горадзе Дэтройце (штат Мічыган, ЗША) памёр пасьля цяжкай хваробы Мікола Прускі (01.01.1928 — 22.01.2014).

Нябожчык, ураджэнец Мікалаеўшчыны (Стаўбцоўшчына), быў шырока ведамы як выдавец, рэдактар, грамадзкі і культурны дзеяч, а таксама дабрадзей, які пасьля абвешчаньня незалежнасьці Рэспублікі Беларусь быў ініцыятарам пасыланьня на Бацькаўшчыну кантэйнэраў гуманітарнай і медыцынскай дапамогі ахвярам чарнобыльскай катастрофы.

Яго маці Міхаліна была стрыечнай сястрой Якуба Коласа па бацьку. Мікола Прускі быў актывістам Беларуска-амэрыканскага рэспубліканскага клюбу ў Дэтройце (1960—1970-я), сябрам БАЗА. Выдаў дзясяткі беларускіх кніг, у тым ліку разам з БІНІМам; рэдагаваў часопіс «Беларускі сьвет», «Беларускі дайджэст».

Управа Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва ў Нью-Ёрку выказвае шчырае спачуваньне сям'і нябожчыка.

*Беларускі Інстытут Навукі і Мастацтва*

# Памяці Міколы Пруская



*Зьлева направа: Уладзімір Сакалоўскі, Вера Міцкевіч, Мікола Прускі*

22 студзеня на 87 годзе жыцьця адыйшоў у вечнасьць вядомы дзеяч беларускай эміграцыі ў ЗША, ганаровы сябра міжнароднага грамадзкага аб'яднаньня «Згуртаванне беларусаў свету «Бацькаўшчына», друкар і выдавец Мікалай Юр'евіч Прускі. Нарадзіўся ён 1 студзеня 1928 года ў Мікалаеўшчыне на Стаўбцоўшчыне. На пачатку 1941 года бацька Міколы, які працаваў настаўнікам, па даносе быў арыштаваны. Сям'ю, якая засталася бяз сродкаў, пад сваю апеку ўзяў малодшы брат Якуба Коласа Міхась Міцкевіч. Бацьку хутка адпусцілі, але страх былога арышту і настаўніцкая праца пад час нямецкай акупацыі вымусілі сям'ю пакінуць Беларусь. Шмат настаўнікаў (у тым ліку і Міхась Міцкевіч), якія разумелі, што дзецям у любых умовах патрэбная адукацыя, працягвалі вучыць дзяцей у гады акупацыі, і пры надыходзе чырвонай арміі пакінулі Беларусь, бо адчувалі, што гэтая праца ім будзе залічана як здрада.

Некаторы час сям'я жыла ў лягеры для перамешчаных асобаў недалёка ад г. Мітэнвальд (Нямеччына), потым - у ЗША у горадзе Дэтройт. Мікола Прускі браў актыўны ўдзел у культурным жыцці беларускай эміграцыі, быў актывістам Беларуска-амэрыканскага клуба, кіраўніком Беларускага драматычнага гуртка ў Дэтройце, які выступаў у розных гарадах ЗША. Але ён больш праславіўся як таленавіты друкар і выдавец кніг і часопісаў беларускай эміграцыі. Друкарскую працу Мікола ведаў дасканала, бо яго асноўнай працай у ЗША было друкаванне каштоўных папер. Гэтай справе ён прысьвячаў і свой вольны час. Набыў старое друкарскае абсталяваньне і арганізаваў друкарню ў сваім доме. З "Друкарні Міколы Пруская" выйшлі такія вядомыя кнігі як бібліяграфія "Янка Купала і Якуб Колас на Захадзе" (1985) і іншыя выданні Беларускага інстытута навукі і мастацтва, альбом "Выдатныя людзі беларускага народу" (1979), зборнік "Янка Купала і Якуб Колас. Вянок успамінаў пра іх" (1982), кнігі, часопісы, канверты і г.д.

У 1957 годзе Мікола Прускі пачаў выдаваць на ангельскай і беларускай мовах часопіс «Сьвет» («World»), у 1959 годзе газэту «The New American». Пераемнікам часопіса «Сьвет» у 1963 годзе стаў беларуска-амерыканскі культурна-асьветны часопіс на беларускай мове "Беларускі Сьвет". У часопісе друкаваліся літаратурныя творы пісьменьнікаў Беларусі і эміграцыі, публіцыстычныя і літаратуразнаўчыя артыкулы, успаміны, нарысы пра дзеячаў навукі і культуры. Многія нумары прысьвячаліся асобным вядомым беларускім дзеячам, партрэты якіх зьмяшчаліся на вокладцы (у тым ліку Я.Коласу, Я.Купалу, М.Багдановічу, В.Быкаву, М.Куліковічу-Шчаглову, У.Глыбіннаму, Н.Арсеньневай, К.Каліноўскаму і іншым). У часопісе зьмяшчаліся фотаздымкі розных часоў, тэксты і ноты беларускіх песень, узоры беларускага арнаменту, старонкі беларускага гумару. Да некаторых нумароў прыкладаўся дадатак "Думкі й погляды". Мікола Прускі таксама быў выдаўцом і рэдактарам газэты беларускага замежжа ў Амэрыцы "Беларускі Дайджэст" (выходзіла ад 1992 года).

Апошнія гады жыцьця Міколы Пруская прайшлі у горадзе Грэнд Рэпідс штата Мічыган. Акрамя друкарскай справы, Мікола Прускі займаўся дабрачыннай дзейнасьцю. Ён быў арганізатарам збору грошай у Амэрыцы на будаўніцтва Беларускага музэя ў Гайнаўцы (яго жонка Вера паходзіць зь Беласточчыны). Таксама Мікола Прускі быў кансультантам па Усходняй Эўропе амэрыканскай арганізацыі «International Aid Inc», офіс якой знаходзіўся ў штаце Мічыган. Першы раз ён прыехаў на Беларусь у 1991 годзе з прадстаўнікамі гэтай арганізацыі і гуманітарным грузам для нашай краіны, пацярпелай ад Чарнобыльскай катастрофы. Другі раз Мікола Прускі наведаў Беларусь разам з дачкой Ганнай, наступны – з жонкай Верай і дачкой Соняй. Яму хацелася паказаць сваім блізкім Беларусь, родную Мікалаеўшчыну, месца, дзе стаяла бацькоўская хата, дакрануцца да роднай зямлі. Да апошніх дзён Мікола Прускі цікавіўся беларускімі справамі, прасіў дасылаць дакладную інфармацыю і беларускія перыядычныя выданьні.

*Марыя Міцкевіч*
*(паводле сайту ЗБС "Бацькаўшчына")*

# Сьветлай душы чалавек

Менавіта такое ўражаньне пакідаў пра сябе Мікола Прускі пасьля знаёмства зь ім. Першы і адзіны раз мне давялося пабачыцца зь ім летам 1994 году, калі мы з Радзімам Гарэцкім былі з візытам у амэрыканскіх беларусаў. Завіталі мы і да Міколы Пруская ў ягоны гасьцінны дом. Гаспадарліва дагледжаная хата захоўвала беларускі дух. Жонка Вера – руплівая гаспадыня традыцыйнага беластоцкага беларускага выхаваньня - даглядала кожны куточак і стварыла для мужа і дачок цудоўныя ўмовы жыцьця, надала жытлу ўтульнасьць і цяпло. А сам гаспадар амаль увесь свой вольны час аддаваў беларускім справам, пра што ўжо сказана вышэй.



*З жонкаю Вераю і дачкою Соняй*

Але найбольшае ўражаньне на мяне аказала тое, як Мікола шчыра клапаціўся, каб дапамагчы суродзічам у Беларусі, пацярпелым ад Чарнобыля. Гэты ягоны клопат быў не эмацыянальным, а самым дзейсным. Ён наладзіў плённае супрацоўніцтва з амэрыканскай кампаніяй «International Aid Inc» , якая дасылала матэрыяльную дапамогу ў розныя куткі сьвету. Нам давялося пабыць у гэтай фірме і пабачыць, як пакаваліся і адпраўляліся вялізныя кантэйнэры зь лекамі, адзеньнем, абсталяваньнем туды, дзе гэтая дапамога вострa патрабавалася. Усё гэта перадавалася амэрыканскімі фірмамі ў якасьці ахвяраваньняў. А людзі, якія працавалі там, былі добраахвотнікамі, як і Мікола. Ён арганізаваў у той час дастаўку ў Беларусь лекаў, медычнага абсталяваньня, адзеньня. Сп. Марыя Міцкевіч у сваім слове сьціпла не згадала пра тое, што якраз ейная арганізацыя "Сакавік" атрымлівала гэтыя кантэйнэры і разьмяркоўвала ў шпіталі. Таксама і наша Згуртаваньне беларусаў сьвету "Бацькаўшчына" пасьля гэтай паездкі ў Амэрыку атрымлівала празь Міколу кантэйнеры і раздавала тым, хто патрабаваў дапамогу.

Мікола Прускі дапамог шмат якім людзям у змаганьні з наступствамі Чарнобыля. А потым сталася так, што мусіў сам змагацца зь цяжкаю хваробаю, на якую пакутуюць нават немаўляткі ў Беларусі. Сэрца маё пранізаў боль, калі я патэлефанавала сп. Міколу па сваім прыезьдзе на жыхарства ў ЗША, і ён паведаміў, што мае рак крыві. На шчасьце, амэрыканская мэдыцына і добрыя лекі дапамаглі прадоўжыць ягонае жыцьцё. Але хвароба і час перамаглі і сёньня мы перажываем гэты смутак страты цудоўнага чалавека, вялікага беларускага патрыёта, руплівага працаўніка на беларускай ніве.

Сьветлая і вечная яму памяць!

Выказваем шчырае спачуваньне сям'і Міколы Пруская – жонцы Веры, дочкам Ганьне і Соні, цэламу роду Коласаваму, які сп. Мікола годна прадстаўляў усё жыцьцё.

*Ганна Сурмач*

# У Менску разьвіталіся з Генадзем Грушавым



28 студзеня памёр грамадзкі дзеяч, заснавальнік дабрачыннага фонду «Дзецям Чарнобыля», доктар філязофскіх навук, прафэсар, дэпутат Вярхоўнага Савету 12-га і 13-га скліканьняў Генадзь Грушавы. Ён прыйшоў у палітыку на хвалі нацыянальнага адраджэньня. Быў адным з арганізатараў і актыўных удзельнікаў Беларускага народнага фронту «Адраджэньне».

Гуманітарый, філёзаф, Генадзь Грушавы хутчэй, чым навукоўцы-фізікі і мэдыкі, зразумеў небясьпеку радыяцыі і амаль тры дзесяцігодьдзі прысьвяціў дапамозе людзям, пацярпелым ад Чарнобыльскай катастрофы. Ён праз фонд «Дзецям Чарнобыля» выратаваў тысячы беларускіх дзетак. А сам памёр ад лейкеміі, зь якой мужна змагаўся апошнія пяць гадоў.

Некалькі соцень людзей прыйшлі разьвітацца з Генадзем Грушавым, няглядзячы на люты мароз. Прыйшлі ня толькі палітыкі, грамадзкія дзеячы, калегі па дэпутацкім корпусе, супрацоўнікі фонду «Дзецям Чарнобыля», сябры. На разьвітаньні было шмат бацькоў тых дзетак, якіх пры канцы 1980-х — на пачатку 1990-х фактычна выратаваў Генадзь Грушавы. Тысячы дзяцей атрымалі магчымасьць лячэньня ў найлепшых клініках Эўропы, аздараўленьня за мяжой.

Сп. Грушавы пакінуў свайму сябру-журналісту Марату Гаравому запавет беларускаму грамадзтву, які быў апублікаваны. Падаем гэты тэкст:

«Калі амаль пяць гадоў таму я даведаўся, што ў мяне лейкемія, – парушэньне структуры ДНК – я сказаў сабе: мне ў жыцьці пашанцавала, бо я памру ад таго, з чым змагаўся ўсё жыцьцё. Але я ня дам Чарнобылю аніякіх шанцаў. Я хацеў бы скончыць жыцьцё на той бойцы, у якую ўступіў 26 красавіка 1986 году і на якой знаходжуся апошнія 27 гадоў. Я з тымі, для каго працаваў пасьля Чарнобыля. Мой сыход – лягічнае завяршэньне майго жыцьця. Такі сыход дараваны мне Богам і лёсам. І я ўспрымаю яго як салдат на вайне, бо лепш загінуць падчас атакі на фронце, чым ад малярыі ў тыле.

Быць можа, сваім лёсам я каго-небудзь пераканаю, што ў Беларусі няма будучага, калі ігнаруюцца наступствы Чарнобыля. Нельга спадзявацца, што ад гэтай трагедыі можна схавацца ці ўцячы. Вось чаму дзяржава павінна займацца Чарнобылем самым сур'ёзным чынам. Толькі тады нацыя мае нейкую надзею на выратаваньне. У свой час я змагаўся за постчарнобыльскую Беларусь. А сёньня палова Эўропы змагаецца за мяне. Эўрапейцы даюць мне тыя лекі, якія я ня мог даць хворым беларусам. І гэты аванс я павінен адпрацаваць напоўніцу…»

Сьветлая памяць гэтаму мужнаму чалавеку!

# Дзень Волі – 2014

Галоўная управа Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня і Бруклінскі аддзел сёлета ладзяць сьвяткаваньне гадавіны абвяшчэньня незалежнасьці Беларусі 25 сакавіка 1918 году ў царкоўна-грамадзкай залі на

Атлянтык Авэню 401 у нядзелю 23 сакавіка.

Запрашаем на сьвята беларусаў Нью-Ёрку і з цэлай Амэрыкі, хто пажадае завітаць да нас у гэты дзень.

Больш дакладная інфармацыя аб праграме сьвята будзе пададзена ў наступным нумары газэты

## На выданьне “Беларуса” ахвяравалі:

| | |
|---|---|
| Галіна Бахар-Гайда, Барыс Гайда | $ 100 |
| Люба Бахар | $ 50 |
| Томас Бёрд | $ 75 |
| Беларуская асацыяцыя ў Заходняй Аўстраліі | $ 150 |
| Наталія Ганчарук | $ 50 |
| Марыя Ганько (Канада) | $ 200 |
| Е.Дамброўскі (Аўстралія) | $ 50 |
| Ян і Надзя Запруднік | $ 100 |
| Згуртаваньне беларусаў Канады | $ 100 |
| Яўген і Вольга Кобяка | $ 50 |
| Ліза Літаровіч | $ 75 |
| Наталія Лукашэня | $ 50 |
| Алекс Мароз (Аўстралія) | $ 50 |
| Марыя Міхал (Аўстралія) | $ 50 |
| Кастусь Маталыцкі | $ 60 |
| Элеанора Норык | $ 50 |
| Богдан Паўк | $ 50 |
| Уладзімер Пірс-Адашкевіч | $ 50 |
| Анатоль Пранцевіч | $ 50 |
| Парафія БАПЦ у Канадзе | $ 100 |
| Уладзімер Ракуць | $ 100 |
| Стэнлі Шабовіч | $ 75 |
| Сьвятлана Шырвель | $ 50 |

**Вялікі дзякуй усім ахвярадаўцам!**


**БЕЛАРУС**
*Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце*
Выдае:
*Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне*

**BIELARUS**
*Belarusan Newspaper in the Free World*
Published by
*Belarusan American Ass'n, Inc.*

**Склад Рэдакцыі:**
Ганна Сурмач – адказны рэдактар (surmacova@gmail.com)
Алена Высоцкая – адказная за кампутарную вёрстку
Таня Красоўская – скарбнік, арганізатар падпіскі (premiere718@yahoo.com)
Галіна Падлеская – рэдактарка дзіцячай старонкі galinapodles@hotmail.com
Валеры Дворнік - адказны за друк
Натальля Старавойтава - адказная за рассылку газэты

Артыкулы падпісаныя прозьвішчамі ці ініцыяламі, могуць зьмяшчаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не пагаджаецца.

**Адрасы Рэдакцыі:**
Паштовы адрас:
*Hazeta Bielarus*
*166-34 Gothic Drive*
*Jamaica, NY 11432*
*USA*

**Грашовыя чэкі выпісываць на імя :** ***BIELARUS newspaper***
дасылаць скарбніку на паштовы адрас рэдакцыі.

**Электронны адрас (email): bielarus@bazahq.org**